# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1969
Сакавік-
Красавік

Год XVII
№ 2 (113)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVII** **March-April** **№ 2 (113)**

**1969**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVII САКАВІК—КРАСАВІК № 2 (113)

*а. Ф. Журня*

# Хрыстос уваскрос!

Калі першыя жанчыны прыйшлі да Хрыстовага Гробу, дык знайшлі яго пустым! Апосталы Пётр і Ян сьпяшаць у перагонкі да Гробу. Займае іх адна думка, ці сапраўды Хрыстос уваскрос?

Факт пустога Гробу ўсіх моцна ўзрушыў — прыяцеляў і ворагаў. І сапраўды гэтае ўзрушэньне сягае да найглыбейшых плыняў чалавечае душы. Праўда, на першым пляне была Сама Асоба Хрыста, — было тое, што Ён памёр, Яго пахавалі, прываліўшы вялізным каменям уваход да гробу, — а вось Ён устаў! Ён ізноў жывы ў сваім целе...

Але гэты факт закрануў таксама глыбокую тугу чалавека па бесканечным жыцьці і апосталы зразумелі, што сапраўды людзкое цела можа паўстаць жывым. І яны ўспомнілі, як Хрыстос заручаў, што і Сам уваскрэсьне і нас усіх пакліча з гробу на апошні Суд. А цяпер ужо спраўдзіліся ягоныя словы — найперш на Ім Самым, дык, значыць, зьдзеіць Ён і другое — ажывіць і нас, бо лягчэй ускрасіць іншых, чым самога сябе.

Вось мы цяпер бачым, як таямніца Хрыстовага ўваскрасеньня цесна вяжацца з нашым. Яно ёсьць радасным адказам: «Так»! на нашае пажаданьне жыць заўсёды шчасьліва. Мы імкнёмся да жыцьця ўсімі пачуцьцямі нашае натуры: нашая душа і цела бунтуецца супраць сьмерці.



О, якая страшная памылка, недарэчнасьць і грэх супраць Бога і чалавецтва тых матэр'ялістаў і атэістаў, якія галосяць «радасную навіну» зьнішчэньня, што цела — кажуць — стаецца вечным парахнём і пылам, а душа дымам, які разьвеецца!...

Затое Хрысьціянская радасьць уваскрашэньня цела — ў сьвятле веры — ёсьць найбольш рэальнай і гуманітарнай, але з гэтым змагаецца сьляпы атэізм пад уплывам і спакусай злога духа.

*

Здавалася-б, што таму чалавеку па жыцьці, які многа церпіць? і такому паміраць пэўна ўжо хочацца?... Але-ж не! бачым у жыцьці нешта іншае. — Нават лягчэй ісьці на сьмерць маладзейшаму, чым старэйшаму, як бачым з прыкладу самагубства маладых у Чэха-Славацыі. Бо ў маладым веку інстынкт жыцьця яшчэ поўнасьцю не разбуджаны: маладыя не скаштавалі ўсяе павабнасьці жыцьця, усяе глыбіні любові да другіх. Маладыя замала цярпелі, дык у іх не расьцьвіло моцнае пажаданьне адплаты за прынятыя крыўды і за страты ў дачасным жыцьці. Паўстае ненасытны бунт супраць людзей, а нават супраць Бога: «Чаму я ўсё жыцьцё цярпеў?» і «Што мне затое будзе?»

І чым атэісты пацешаць такога пакрыўджанага ўсім жыцьцём чалавека?

Але Бог стварыў чалавека да вечнага жыцьця ў небе-разам з Сабою — да жыцьця напоўненага па берагі шчасьцем, і Бог

удыхнуў у натуру чалавека імкненьне да такога шчасьця. І толькі гэтым тлумачыцца нашае вечнае змаганьне, каб здабыць усё найлепшае, найпрыгажэйшае і найбольшае...

А тымчасам сьмерць, здаецца, усё псуе і нішчыць усе надзеі, як пажар нішчыць новы, закончаны дом. І сьвяты Павал называе сьмерць нашым ворагам, але кажа, што Хрыстос паканаў яе сваім ускрасеньнем.

З аднае стараны чалавек чуе ў душы, што родзіцца на жыцьцё, а сьмерць дзеіць як забойца-здраднік-злодзей...

Гэты разлад чалавек адчувае надта балюча: на працягу ўсяго нашага жыцьця трывае барадзьба са сьмерцяй, якая насылае на чалавека розныя слабасьці і нарэшце найцяжэйшую, нявылечную хваробу — старасьць!

Але Хрыстос разбурае гэты разлад сваім слаўным Ускрашэньнем: разясьняе цемру вечнага жыцьця і сваім прыкладам паказвае, як нашае цела будзе выглядаць і якім будзе нашае жыцьце ў небе. Такім чынам нашае ўскрасеньне стаецца рэальнасьцяй — магчымасьць напэўна здзейсьніцца! І сьмерць перастае быць жудаснай карай і роспачнай падзеяй, але пакажацца нам справядлівай адплатай за нашыя грахі і належным выкупам — у лучнасьці з Хрыстом — на вечнае шчасьлівае жыцьцё. Таму добрыя хрысьціяне не паддаюцца роспачы і нараканьням у абліччы сьмерці, а прыймаюць яе пагодна, а сьвятыя нават з радасьцяй.

І сьвяты Павал радасна кліча: «Сьмерць, дзе тваё джала? Пекла! дзе твая перамога?» (I Да Карынт. 15, 55):

Ня дзіва, што Вялікдзень стаўся найбольшым хрысьціянскім Сьвятам, а ў Усходняй Царкве кажная нядзеля ёсьць памяткай Хрыстовага Ўскрашэньня. І таксама ня дзіва, што апосталы, асабліва Павал, так часта гавораць аб гэтым — Хрыстовым і нашым — ускрашэньні! Бо гэтыя праўды найлепш адказваюць імкненьню нашае натуры да трывалага, вечнага жыцьця. Дзеля таго так прывілося ў нашым жыцьці царкоўнае прывітаньне «Хрыстос Уваскрос!» і «Алелюя!» Гэтым выказваецца сапраўдная радасьць і ўдзячнасьць Хрысту за адкупленьне і ўскрашэньне.

«Калі-ж аб Хрысьце апавядаецца, што Ён уваскрос з мёртвых, дык як некаторыя з вас кажуць, што няма ўскрасеньня мёртвых? (I Кар. 15, 12). І яшчэ сьв. Павал піша: «Калі мы верым, што Хрыстос памёр і ўваскрос, дык і памёршых у Ісусе Бог прывядзе з Ім». (Да Тэс. 4. 13).

---

*а. Тамаш Падзява.*

# Вялікае славянскае сьвята ў Рыме

(Гэтысамы тэкст перадавала Ватыканскае Радыё 13-га лютага 1969)

Прамаўляючы да народу сабранага на пляцы, Павал VI сказаў: «Сьвяткуем 11 стагодзьдзяў ад сьмерці сьв. Кірыла, які з братам Мяфодам вучыў славянскія народы сьв. Эвангельля. Дзеля гэтага ён улажыў абэцэду, якая яшчэ ўжываецца дагэтуль і ад яго імяні называецца «кірыліцай». Ён пераклаў на гэтую мову СЬВЯТОЕ ПІСЬМО і адчыніў доступ да паўночна-заходніх краінаў для нашай цывілізацыі».

«Памёр сьв. Кірыл у Рыме, маючы 42 гады і пахаваны тут у базыліцы сьвятога Клімента, якога рэліквіі (мошчы) перанёс з Крыму, дзе гэты Папа, трэйці наступнік сьв. Пятра, памёр сьмерцю мучаніка — ў часах перасьледу хрысьціян імпэратарам Траянам».

«У гэтым тыдні будзем спатыкаць вялізную грамаду пілгрымаў з Чэха-Славацыі і прадстаўнікоў іншых славянскіх народаў. Такім чынам мы будзем мець нагоду маліцца за веру, памыснасьць і згоду гэтых народаў, з якімі каталіцкі Рым меў заўсёды цесныя сувязі духовай еднасьці».

*

11-га лютага «Оссарваторэ Романо» памясьціла ліст кардынала Дэль'Аква (Ён ёсьць Генэральным Вікарым Папы для гор. Рыму):

«Каталіцкі Рым мае ўрачыста адсьвяткаваць 14. II. (1969) 1100 гадоў ад сьмерці сьв. Кірыла, славянскага апостала». Далей кардынал піша, што сьв. Кірыл закончыў апостальскую працу ў абняцьцях Папы Гадрыяна II-га і адыйшоў да Князя Пастыраў-Хрыста. Цела сьв. Кірыла асталося тут у Рыме, куды ён прывёз калісьці мошчы сьв. Клімента.

На ўжываньне ў Літургіі роднай славянскай мовы між тымі народамі, дзе ён працаваў, Кірыл атрымаў прызваньне і багаславенства Рымскага Біскупа. Гэта такжа сьведчыць аб ягонай палкай рупнасьці Апостала, ягонай уніклівасьці ў сытуацыю і ягонай празорлівасьці.

Кардынал прыводзіць такжа вынятак з прамовы Яна XXIII (13. V. 1963): «Брат і вер-

ны сябра Кірыла — Мяфод, калі прыйшоў у Рым у 880 годзе, прынёс паклон ад усіх тых народаў, якім ён аглашаў ДОБРУЮ НА-




ВІНУ, або якіх прыцягнуў гераізмам сваей любові: ад Мараваў, Славакаў і Чэхаў, ад Палякаў, Украінцаў, БЕЛАРУСАЎ і Расейцаў, ад Румынаў, Баўгараў, Сэрбаў, Харватаў, Славэнцаў і нават ад Мадзяраў».

«Усе яны атрымалі разам са скарбам хрысьціянскае веры багацьце культурнага жыцьця, якое на працягу стагодзьдзяў мела цудоўнае дзіўна-вялікае разьвіцьцё».

Кард. Дэль-Аква заклікаў вернікаў Рыму, каб прывіталі, як дарагіх гасьцей, усіх пілігрымаў, якія прыбудуць з верай і надзеяй з нагоды Юбілейнага сьвята.

Няма сумніву, што вернікі Рыму будуць маліцца разам з пілігрымамі і тым самым дадуць пасьведчаньне аднолькавай веры, выказанай у словах сьв. Кірыла, якія знайходзім у ягоным старадаўным жыцьцяпісе:

«Госпадзе Божа, Стварыцелю неба і зямлі... Пашыры сваю Царкву, аб'яднай усіх людзей, злучы выбраных у згодным вызнаньні праўдзівай веры. Зрабі ўсіх паслушнымі твайму слову, якое ўзбудзіць душы да добрых паступкаў, якія Табе будуць да ўспадобы».

І мы, беларусы, не апошнія адклікаемся на гэты заклік Апостальскага Пасаду.

Для нас прыклад і натугі Апосталаў славян ня будуць абыякавымі. І дагэтуль мы змагаемся за нашую культурную незалежнасьць, за нашую гэрархію і за ўсё тое сьвятое, што кажнага чалавека робіць вольным і ў поўным сэнсе незалежным.

Рым, 13. II. 1969.

## Літургія ў сьв. Пятра 14.2.1969 на юбілеі 1100 год. сьмерці сьв. Кірыла

Папа хацеў сам саслужыць з усходнімі біскупамі: да гэтых належылі і наш Уладыка Чэслаў Сіповіч і Ўладыка Андрэй Каткоў. Я і адзін праваслаўны сьвятар занялі мейсцы на трыбуне і ад нас было блізка да Сьвятога Айца.

Я мог добра прыглердзіцца Паўлу VI-му: ён мне паказаўся вельмі бадзёрым і мяне прыемна зьдзівіў ягоны малажавы выгляд, а спадзяваўся ўбачыць яго моцна пастарэўшым — аж выглядае шмат маладзей ад мяне, хоць маю яшчэ толькі 63 г. Папа заняў пры аўтары сярэдняе мейсца, а праваруч яго быў кард. чэскі Бэран і леваруч кард. харвацкі Шэпэр. Пры іх было 11 біскупаў усходніх Нашыя Уладыкі, як наймалодшыя, занялі апошнія мейсцы, аднак іх папрасілі адчытаць голасна дзьве малітвы пасьля асьвячэньня Сьвятых Дароў. Некаторыя тэксты чыталіся па чэску і па славацку, а такжа і ў іншых мовах; а нават чыталі і сьвецкія людзі бяз літургічных аблачэньняў і — на вялікае дзіва! — нават *дзьве жанчыны!* Яны станавіліся на мейсцы дыякана пры мікрафоне і голасна адмаўлялі выбраныя ім малітвы — таксама як і асобы духоўныя.

Пасьля Эвангельля Папа прачытаў па італьянску сваё Апостальскае Пасланьне, якое посьле раздаў біскупам у мове лацінскай, бо ня ўсе яны ведалі італьянскую мову.

У кароткім пераказе зьмест тае мовы такі: Папа зрабіў агляд жыцьця сьв. Кірыла і ягонага брата сьв. Мяфода. Аб Кірыле гаварыў, як вялася ягоная пастырская праца, а такжа і культурная творчая праца; як ён прыбыў у Рым бачыць Наступніка сьв. Пятра і выказаў поўнае паслушэнства Рымскаму Пасаду і як памёр у Рыме.

Пасьля Літургіі Павал VI, як звычайны біскуп падыходзіў да прадстаўнікаў праваслаўнага духавенства і да дыпляматаў, вітаўся і гутарыў. А ў паваротце неспадзявана Папа перамяніў парадак, перайшоў да астаніх духоўных, якія цяпер аказаліся наперадзе і так вярталіся ў закрыстыю, што ўсе кардыналы асталіся на канцы.

Спатканьне з чэха-славацкай дэлегацыяй адбылося а гадз. 12-ай у вельмі цёплай і сардэчнай атмасфэры. Гэтых пілігрымаў было вельмі многа і яны на Літургіі прычашчаліся ў вялікім ліку. Некаторыя біскупы хацелі Папе памагчы прычашчаць і выйшлі з запаснымі чашамі, але пабожныя пілігрымы проста «збайкатавалі» іх, жадаючы прыняць Сьвятыя Дары з рук самога Папы, хоць гэта і заняло значна больш часу.

На аўдыенцыі пілігрымы так ціснуліся да Папы, што ледзь ватыканская гвардыя магла іх паўстрымаць!

У прамове Папа адзначыў, што дацэньвае веру і лучнасьць чэхаў і славакаў з Апостальскім Пасадам. І што ў адносінах з Урадам першыя пачаткі ўзмацняюць у ім надзею, якая апіраецца на іх добрай волі.

«Мы лічым на вас усіх сэрцам, якое вы-бягае-дрыжыць на спатканьне заўтрашняга дня. Лічым на Вас, Біскупы і Сьвятары, што Вы прадоўжыце з руплівасьцяй, растропна і адважна справу сьвятых Кірыла і Мяфода. Лічым на Вас, вельмі нам дарагая Моладзь... каб Вы змаглі навучыцца духовай моцы і ахвярнасьці».

Уканцы выразіў жаданьне поўнае рэлігійнае свабоды для біскупаў, для духоўных сэмінарыяў, для законаў і рэлігійных таварыстваў, каталіцкага друку і навучаньня.

Пасьля прамовы Папа яшчэ доўга гутарыў з прысутнымі. Проста канца ня было сьпевам, клічам, воплескам і сьлёзам радасьці! А Папа ўсім падаваў рукі, гладзіў па галоўках дзетак і багаслаўляў бязупынна... Народ у душы і ў словах выражаў сваю вытрываласьць, вернасьць і негаснучую л ю б о ў!

---

*Я. Савіцкі*

# 3-яя вайна — і — канец сьвету

У апошнім часе газэты густа пачалі пісаць аб пагрозе 3-яе вайны. Гэта вельмі турбуе ўвесь сьвет і а. Раман пастанавіў пагаманіць з якім-небудзь вучоным з «высокае матэматыкі» на гэтую грамоздкую тэму. А якраз здарыўся малады чалавек, які скончыў студыі і абняў становішча ў аддзеле кампютараў.

Называўся ён Віктар Імпульс. Ён ужо перажыў сучасную хваробу доўгага валосься на галаве і барадзе: цяпер насіў толькі вусы і мерную чупрыну і стаў больш памяркоўны ў сваіх поглядах.

## I

а. Раман: — Прашу даць мне ласкава адказ на цяжкія для мяне праблемы з высокай матэматыкі, асабліва з фізыкі. Вы ўсё-ж скончылі студыі, значыць, спэцыяліст.

Імпульс: — Ой, нельга так гаварыць! Я толькі пачынаючы матэматык. І ніякія дыплёмы тут не маюць значэньня, а толькі даюць падставу да студыяў спэцыяльных. Аднак папрабую Вам даць адказ.

а. Раман: — Як гэта вы, вучоны, можаце пагадзіць высокую навуку з такімі вынахадамі ў атамнай энэргіі, што пагражаюць нашай беднай плянэце? Бо вось вы ўжо дайшлі да таго, што можаце зьнішчыць ня толькі ўсё чалавецтва, але наагул усялякае жыцьцё на зямлі...

Імпульс: — О, не! Што вы гаворыце? Навука такой мэты сабе ня ставіць: навука абсалютна нэўтральная!

— Матэматыка, як і кажная навука, разьвіваецца: праўда, цяпер накіравалі яе на шлях атамнай энэргіі, якая сапраўды можа прычыніць вялізную шкоду чалавецтву...

а. Раман: — Ну-ну-ну! Я-ж гэта і гавару... І вы самі...

Імпульс: — Але-ж чакайце! Ня вініце так адразу навукі, бо тут умяшалася п а л і т ы к а і дыплямацыя.

— А ці-ж Вы ня ведаеце, што навука працуе толькі на карысьць людзей — для нашай культуры і цывілізацыі, каб аблягчыць працу і жыцьцё? — Калі, напрыклад, вучоныя вынайшлі сілу пары і электрычнасьці, то работнікі псавалі машыны, якія адбіралі ім працу. Але цяпер ніхто ня выступае супраць электрычнасьці, асабліва пры асьвятленьні і аграваньні.

— Падобна будзе і з атамнай энэргіяй: ужо зусім недалёкі час, калі ўсе маторы пяройдуць на атамную сілу, каб працаваць за чалавека — на яго карысьць і прыемнасьць.

— Гэтак праца агранічыцца да 3-4 дзён у тыдзень і да 2-4 гадзін у дзень. А людзі змогуць аддавацца сваім прыватным заняткам, адпачынку і заняткам у галіне культуры ці чым іншым — паводля густу.

а. Раман: — О, гэта толькі вашая ільлюзія — спакусьлівая і прыемная! Пакуль вашая атамная энэргія абернецца на помач працоў-

наму чалавеку, то ўжо тых людзей на сьвеце яна загубіць. Яе ўжо накруцілі на такое выключнае узбраеньне, што ня трэба ані войска — жаўнераў, афіцэраў, генэралаў, ані таксама гарматаў, ні танкаў. Нават і самалётаў ня трэба, бо ракеты і спутнікі закідаюць ворага вадароднымі бомбамі.

— Так згіне вораг, але... (Увага!) ... — Атамная атрута абернецца і на самога, хто яе выпусьціў; а нават агорне ўвесь няшчасны сьвет! ... Ці-ж я неправільна разумею і гавару?

Імпульс: — на жаль, усё гэта так! — Але Вы мусіце згадзіцца, што «высокая навука» ў гэтым ня вінавата. І я ясна стаўлю Вам пытаньне: — Матэматыка, фізыка, хімія, прыродазнаўвства, астраномія і атамная навука — маюць права разьвівацца, ці ня маюць права? — Адкажэце мне: так ці не?

а. Раман: — Пэўна, што маюць права, як і кажная навука: маюць права прасьвятляць людзкі розум і памагаць людзям у іх змаганьні з прыродай. Але навука ня мае права кіраваць вынаходзтва на з г у б у людзкога роду і нашае плянэты!

Імпульс: — Чакайце! Значыць, мы — н а в у к а — ў парадку! бо мы працуем на карысьць людзтва — цывілізацыі і...

а. Раман: — Не, вы чакайце! Але к у д ы навука накіравала атамную энэргію! — Вы адкажыце мне на гэта!

Імпульс: — Я-ж ужо Вам сказаў! Ня мы кіруем дзяржавамі; бо кіравецтва і поўная адказнасьць належыць да цароў ці каралёў або да дыктатараў ці прэзыдэнтаў і іх міністраў, дык яны і адказваюць за кіраваньне атамнай энэргіяй і зброяй.

— А вучоныя — у філязофіі, ў літаратуры і гісторыі, ці ў матэматыцы — усе яны стаяць на службе ў дзяржавы і ў грамадзтва. Асабліва цяпер, калі найбольш патрэба тэхнічнай веды, дык вучоныя матэматыкі мусяць падлягаць міністрам у прамысловасьці, у гандлю і вайсковасьці. — Тады-ж «высокая навука» атрымлівае задачы ад ураду — выканаць тое ці іншае; а вучоныя м у с я ц ь задачы выканаць, інакш яны страцілі-б службу, а ў Савецкім Саюзе іх маглі-б бяз ніякае цэрэмоніі расстраляць! ...

а. Раман: — Та-а-ак! О, гэта трагічнае палажэньне: проста нейкі дзіўны фатум-лёс прымушае людзей працаваць на агульную згубу сьвету ... Абдумайцеся вы! ...

Імпульс: — Ага! Вось Вы пачынаеце разумець справу: якраз так яно дзеецца з вучонымі. Між Амэрыкай і Саюзам ідзе шалёная канкурэнцыя, хто будзе мацнейшы? І мы, вучоныя, працуем ня толькі пад прымусам ці для заработку, але і каб паказаць сваю геніяльнасьць; ды і на тое, каб бараніць народ і свой край дый каб зьнішчыць варожую перавагу.

— Дык вось цяпер ці можаце асудзіць навуку, што яна прычыняецца да згубы чалавецтва?

а. Раман: — Матар'яльна — так! Але фармальна, значыць, у сумленьні — ня цалкам, бо ёсьць розныя адгаворкі ці выкрутасы — сапраўдныя або фальшывыя ...

— І ці можна апраўдаць прадаўца, калі бандыт хоча ў яго купіць «за добрыя грошы» самы найлепшы рэвальвэр, з якім пойдзе ўначы на рабунак. А прадавец дагадваецца ....

Імпульс: — І ўсё-ж ваш прыклад нятрапны! Тут наагул будуць і іншыя сумнівы: на Захадзе разважаюць так: «Савецкі Саюз скрупулаў ня мае». — «У іх няма Бога, ні душы і ні сумленьня: яны множаць атамнае аружжа без кантролі, дык што нам рабіць? — Калі зложым рукі і затрымаем узбраеньне, дык астанёмся безбароннымі і тады мусім паддаца Саветам на ўсё — пайсьці пад іх поўную ўладу».

— Але падобна разважае і Масква; а з гэтага палажэньня ня відаць ніякага ратунку! ... А навонках абодвы бакі гавораць, што шукаюць р а ў н а в а г і. — Аднак раўнавагу ўжо папсаваў К і т а й — трэйці канкурэнт, які зьбівае з толку і Амэрыку і Саюз.

а. Роман: — Так, Вы можаце перакладаць адказнасьць на палітыкаў і на ўрады Ўсходу і Захаду, аднак Вы ня можаце цалкам апраўдаць «высокую навуку». І так мы абодвы знайшліся ў тупіку, як два сьляпыя, уткнуліся ў плот і ўзаемна пытаем дарогі.

— Але найгорш, што ўвесь сьвет шукае дарогі, каб выйсьці з гэтае блытаніны, бо прачувае сваю згубу ...

Імпульс: — Ах, у гэтым лябірынце патрэбна «нітка Арыядны». Або — р о с п а ч ! У такіх выпадках будысты ў Азіі і чэхі ў Эўропе абліваюцца бэнзынай і падпальваюцца. Але ў Амэрыцы запанаваў бізнэс, а ў Расеі савецкае лгарства, а ўвесь сьвет грэзьне ў фальшывай палітыцы.

а. Раман: — Усё гэта недарэчна. Разумны чалавек шукае лягічнага выйсьця: разважае, пытаецца ў другіх, моліцца да Бога і пасьля выбірае самае найлепшае; а тады рашуча прыступае да выкананьня, перамагаючы перашкоды.

— Дык падобна тымбольш павінны паступаць цяпер усе палітыкі і ўсё грамадзтва, бо справа датычыць існаваньня ўсяго сьвету — *б ы ц ь* ці *н я б ы ц ь ?*

— І мяне агортвае вялізнае зьдзіўленьне, сорам і абурэньне на пустых людзей, якія ня хочуць думаць: як тыя страўсы на пустыні, хаваюць галаву ў пясок, каб ня бачыць сваей сьмерці. Або, як бараны, што ідуць на зарэз моўчкі. А іншыя гоняцца за пустой маной, набіваюць кішэні ці шукаюць забаўкаў і роскашы.

— Прыпамінаецца мне стада гусей, якіх прыгналі да бойні: разьнікі вострацъ нажы, закасваюць рукавы і ўжо хапаюць і рэжуць першых кандыдатаў; а рэшта:... Рэшта гусей тымчасам спакойна пасецца побач на траве, хоць бачуць і чуюць, што там блізка дзеіцца з іхнымі братамі. Таксама рэагуюць і авечкі. —

— А толькі сьвіньні страшэнна ўзбураюцца і кідаюцца бараніць сваіх бліжніх. — Вынікае з гэтага, што сьвіньні разумнейшыя ад усіх іншых зьвяроў. — А можа і мудрэйшыя ад... людзей?

Імпульс: — Ну, дык што-ж? — Калі, як страшаць вучоныя, выгіне ўвесь чалавечы род, дык можа астанецца якая захудалая пара сьвіней дый пасьля размножыцца і праз пару мільёнаў гадоў стануць разумнымі? Паставяць сябе на ногі, выпрацуюць рукі і «выйдуць у людзі»!

— Не дарма мэдыцына даказвае, што сэрца ў сьвіньней самае блізкае да чалавечага. А псыхалёгі даказваюць, што ўжо цяпер сьвіньня ўважае сябе за роўную чалавеку.

а. Раман: — А можа яшчэ дадумаемся да таго, што Бог дасьць нейкай пары сьвіньней людзкую душу?...

Імпульс: — Ды і варта было-б так і зрабіць людзтву за кару, што змарнавалі і сябе і плянэту!

а. Раман: — Ну, і дагаварыліся мы да поўнае недарэчнасьці! Значыць, лепш перарвём і адпачынем! — Але гэта яшчэ ня ўсё, бо мы ня вычарпалі праблемы! Дык прашу на другі раз да мяне. Толькі перш паведамце тэлефонам...

Імпульс: — Вельмі добра, дзякую! За некалькі дзён спаткаемся і можа ў лепшым гумары?

## II

Манах Раман, пасьля папярэдняе гутаркі, перажываў дзіўнае хваляваньне душы: то парываў яго сьмех на ўспамін аб сьвіньнях, што мелі стацца людзьмі, то западаў у згрызоту, калі бачыў праз вакно, як людзі на вуліцы вельмі сьпяшаліся, пераганяючы другіх, або іншыя сонна снавалі па тратуарах, водзячы рознага тыпу сабак на пагулянку...

— Думаю, казаў ён сабе, што недарма філязоф Дыяген брадзіў па горадзе ў ясны дзень з лятарняй і шукаў у натоўпе ч а л а в е к а !

— Бо, сапраўды, чалавек, які ня хоча паважна думаць, траціць права называцца разумным. На вялікі жаль, я сам страціў нямала вартасьці праз пустыя заняткі — неадпаведныя для майго прызваньня!

— А гэтым маладым вучоным варта гаманіць: ня будзе час страчаны — ні мне, ні яму, а магчыма і ўсяму чалавецтву... Павінен зара прыйсьці! — (Паглядае праз вакно) — О, бачу! як раз ідзе на назначаную гадзіну...

*

а. Раман: — О, вітаю Вас і хвалю за акуратнасьць!

Імпульс: — Жывы і здаровы стаю перад Вамі! Мушу Вам прызнацца, што праведзеная размова не прайшла для мяне неадчувальна: я да таго ўважаў матэматыку элемэнтам чужым і выпадковым. Мяне з маленства больш пацягвалі прадметы гуманістычныя, хоць бацькі і настаўнікі ўгаварылі мяне пайсьці на матэматыку. Аднак цяпер чуюся, як выбіты з рэяк. — Ну, будзем думаць!

а. Раман: — А мяне мучыць зусім іншая думка: — Чаму паважныя газэты, якія ставяць розныя прагнозы наконт 3-яе вайны і канца сьвету, ня робяць ніякіх высноваў і ня шукаюць разумнае рады на прышласьць?... — Яны пацяшаюцца тым, што Усход-Захад скора прыйдуць да раўнавагі ў збраеньні. Праўда, усе праканаліся, што пераганяцца немагчыма, а затое трэба пагадзіцца насупраць Кітаю.

— Але я добра памятаю, як пачалася І-ая Вялікая вайна. Тады ўжо была поўная раўнавага ў збраеньні, аднак вайна выбухла зусім выпадкова.

— А ІІ-ая вайна залежыла ад двух шалёных дыктатараў, Гітлера і Сталіна, якія спачатку здружыліся, а пасьля пасварыліся. хоць было ў іх падпісана нямала розных пактаў і дагавораў.

— Дык тымбольш цяпер, калі няма ніякіх асаблівых дагавораў і няма даверу між Усходам і Захадам, досыць будзе аднаго факту або правакацыі, каб сарваць маўклівую раўнавагу і хвалюючы супакой.

— І Папа Павал VI асьцерагаў нячраз, каб не паддавацца правакацыі, якую могуць выклікаць шалёныя людзі нейкім злосным інцыдэнтам. Ці-ж мала здараецца ў апошніх

гадах такіх забойстваў — проста ня ведама дзеля чаго учыненых?

— А ня дай Бог — выбухне вайна, яка перародзіцца ў атамную — дзеля страху, які існуе між Усходам і Захадам.

Імпульс: — А я ўсё ж пракананы, што да атамнай вайны ня дойдзе!

а. Раман: — Давайце доказы!

Імпульс: — Самы просты розум даказвае, што ніхто не захоча *сам згінуць*, губячы другіх.

— Яшчэ Эйнштэйн, які лічыцца «бацькам» атамнай энэргіі, адказаў тым людзям, што пыталіся: «Ці 3-яя вайна будзе атамнай»? Дык Эйнштэйн сказаў: «Я ня ведаю! А затое ведаю, што 4-ая вайна будзе весьціся *палкамі* і *каменьнямі*».

— Гэта значыць, што 3-яя вайна давядзе чалавецтва да поўнае ўтраты культуры: тады сьвет дойдзе да таго, што забудуцца, як ужываць стрэльбы, а нават мячы, нажы і лукі!

— Дык чуецце Вы, а. Раман, што кажа здаровы розум? Ня можа быць атамнай вайны, бо ...

а. Раман: — Ах-ах! Што будзем гаманіць? — Бо я зусім з Вамі не згаджаюся, бо зусім ужо няма ані «простага», ані «здаровага» розуму!

Імпульс: — Як — то, кажаце, няма ?

а. Раман: — А так! Быў калісьці сусьветны людзкі розум, але людзтва — праз свае грахі — праз фальш, крыўду, бізнэс і праз роскаш жыцьця — праз распусту — чалавецтва той розум утраціла ...

Імпульс: — Чакайце — чакайце! Што Вы гамоніце? І якая прычына? ...

а. Раман: — Кажу тое, што чуеце! А прычына? ... Відаць, што заразіліся ад няшчаснага Гітлера і Сталіна. — Каб я так жыў, самая «высокая навука» і самая «найвышэйшая палітыка» значыць, што верхаводы чалавецтва *пашалелі!*

Імпульс: — Ну, так казаць нельга! Цяпер Вы давайце мне доказы!

а. Раман: — Ах, доказаў ёсьць больш чым трэба! Дык слухайце:

1) У Паўдзённай Амэрыцы багачы захапілі землі, фабрыкі і банкі дый усю уладу: так уціскаюць арандатараў і работнікаў, так што давялі да апошняе ступені голаду.

2) Голад у Індыі выкліканы тым, што не дапускаюць забіваць «сьвятых» кароў, пацукоў і малпаў — рэлігійны фанатызм.

3) Амэрыка і Саветы так зброяцца, што ўжо маглі б зьнішчыць нашую плянэту атамнай сілай — лёгка і скора — аж да астатняй іскры жыцьця!

4) Сав. Саюз бярэцца ратаваць галодныя краіны, але ўсюды зара ўводзяць сваю атэакамуну, значыць, «лякарства горшае ад хваробы»: уводзяць дыктатуру, бязбожнасьць, прымус і фальш, а ў рэзультаце выклікаюць голад яшчэ большы.

5) Закалот між Усходам і Захадам выклікае фінансавы крызыс і вычэрпывае сьвет эканамічна і прыводзіць да паўсюднай рэвалюцыі ...

— Дык вось галоўныя прыклады агульнага шаленства. — Калі ўсё гэта ўзяць пад развагу, дык дзе-ж той «здаровы розум», аб якім Вы гаварылі?

Імпульс: — Так, я гаварыў ... Але я сам ведаю, што атамная бомба вісіць над нашымі галовамі.

а. Раман: — ... і як стрымаць разгон сусьветнай машыны, калі сапсаваліся тармазы? — Занікае на сьвеце чэснасьць, развага, пашана і давер між людзьмі, між народамі і дзяржавамі ... Асабліва занікае праўда.

— Але затое рэклама, прапаганда, агітацыя, самахвальства, бізнэс і нажыва занялі мейсца праўды і любові бліжняга і сталі яўным або таёмным аружжам афіцыяльнай палітыкі і дыктатуры.

Імпульс: — Ну, Вы намалявалі абраз такімі цёмнымі фарбамі, як той мастак што выставіў між малюнкамі адзін зусім чорны абраз і падпісаў: «Барадзьба нэграў уначы». А публіцы выясняў: «Тут трэба толькі ўслухацца, можа пачуеце адгалоскі?»

— І я не магу Вам нічога адказаць і сам ня ведаю, як «услухацца» ў пульс сусьветнага жыцьця? — у настрой грамадзтва і навуковых органаў, дзяржаўных мужоў, духоўных айцоў, студэнтаў, жаночае стараны, мілітарных дзеячоў і іншых частак людзтва ...

а. Раман: — Добра! паслухайце далей. — Я ўжо некалька гадоў таму прачытаў дзьве кніжкі — апісаньне вынікаў атамных бомбаў скіненых на Гірошыму і Нагасакі.

— Асабліва мяне ўразіла кніжка «Званы ў Нагасакі», якую напісаў доктар мэдыцыны, што сам перажыў там катастрофу і быў часткова атручаны і яшчэ мог ратаваць іншых, якія там мучыліся і паміралі. Значная частка, што перажыла, хварэла доўга, як і сам гэты доктар. Ён закончыў пісаць кніжку на некалькі дзён перад сьмерцяй.

— Гэты абраз дасюль у мяне стаіць перад вачамі. Уявіце сабе тое здарэньне: ад разрыву атамнай бомбы адразу пачуўся страшэнны гук, ўструс і бляск. І тут жа ўсе людзі таго гораду пачулі на сабе вынік — паражэньне ўва ўсім целе — чым бліжэй, тым цяжэй. Найбліжэйшыя адразу загінулі, далей

ідуць канаючыя і паміраючыя ў страшэнных муках, бо ад нявыноснага жару-гарачыні ў іх затлелася ўся адзежа і ўся скура. Даслоўна — пачала на жывым чалавеку кіпець кроў і скварыцца тлушч і цела...

— І так адразу захапіла ўсіх страшэнная мука — тлеюць і гараць — аж няма каму ратаваць і спачуваць! — адны ўжо сканалі, а іншыя ў агоніі.

— А якое палажэньне бацькоў, калі чуюць енкі і крык няшчасных дзяцей, якім ня могуць нічым памагчы — самі ў нявыносных цярпеньнях!

— Далей аўтар апісвае стан затрутых атамным ядам, якія выжылі. Яны ўвесь час да сьмерці не маглі вылячыцца дый атручэньне дзеяла на іхняе патомства: дзеці радзіліся паўкалекі, недалужныя і недаўгавечныя.

Імпульс: — О, я ня чуў аб такіх выніках праклятай бомбы!

а. Раман: — А там былі бомбы самыя недасканалыя: цяпер вашая навука ўзмоцніла іх у дзесяткі і соткі разоў!

— Дык што думаць і гаварыць аб долі ўсяго чалавецтва, калі шалёныя ў навуцы і палітыцы людзі (як Мао-Цэ-Дун і Брэжнёў) кіруюць сьветам? Чаго мы чакаем? і якія неймаверныя цярпеньні пагражаюць усім і ўсюды! а ўсё надарэмна — дзеля вар'яцкай фантазіі фанатыкаў...

— І ці-ж не належыць закляйміць тых праклятых ворагаў усяго чалавецтва, якія з халоднай развагай шыкуюць нам і сабе — наскрозь усім — чужым і сваім такую долю?!

Імпульс: — Праўда, ужо ведама, што атамнае і вадароднае аружжа ня вычэрпвае ўсяго збраеньня, бо ёсьць іншыя, новыя і т а ё м н ы я сродкі, якія будуць зьнячэўку ўведзены ў дзеяньне падчас 3-яе вайны.

а. Раман: — А нашая цудоўная плянэта-Зямля стане агульным папялішчам, трагічным магільнікам для загінуўшых і безнадзейным шпіталям для канаючых, якіх ніхто ратаваць ня зможа, дык той шпіталь замяніцца на камэру сьмерці...

Імпульс: — Божа мой! Чаму-ж Вы, сьвятар і веручы чалавек, а з вамі і ўсё духавенства, не падыйміце свайго голасу-алярму і ня шукаеце спосабаў ратунку ў Бога і ўва ўсіх Сьвятых?

а. Раман: — Сьвятая праўда! Цяпер толькі Б О Г можа сказаць сваё апошняе і рашучае слова там, дзе наблыталі сьляпыя, глухія і бязглуздыя людзі.

— Усёмагутны Б о г ёсьць Валадаром усяго сьвету і канец сьвету — ў Божых руках!

*

УВАГА: Гэтыя развaжаньні працягнем далей.

Можа хто з Паважаных Чытачоў паможа нам, дакідаючы свае разумнае слова і глыбейшыя думкі і пляны і пытаньні? Бо гэта-ж ёсьць справа роўна важная для ўсіх, асабліва для маладзейшых, перад якімі адчыняецца сьвет.

А ў вялізнай небасьпецы глыбокія думкі аднаго чалавека могуць быць ратункам для грамадаў людзей і наагул усяго людзтва: толькі належыць свае натхненьні выказваць ясна, рашуча і адважна, з надзеяй на Госпада Бога.

8. III. 1969.

---

*а. Віталіс Хамёнак*

# Мой жыцьцяпіс

Божы сьвет убачыў я ў 1889 годзе 4-га красавіка, паводля старога стылю.

Бацькі мае зваліся Янка Хамёнак і Марціся (Марціянна) з Паздэрскіх, (даўно ўжо пайшлі на той сьвет: тата ў 1929 г., а мама ў 1936), Вёска называлася Баяршчына, гміны Кублічы, павет Лепэль, губэрніі Вітэбск. Ахрысьціў мяне Пробашч*) ў мястэчку Селішча. Гэта ўсё належыла да Архідыяцэзіі Магілёўскай, якой сталіцай быў горад Пецярбург.

Доўга я ня мог хадзіць — да 5-га году — і называлі мяне «сядуном». Мае бацькі былі земляробамі. Апрача таго мама займалася пражай на верацяне, а як увайшлі ў моду калаўроты, дык на калаўроце і прала лён у розных постацях — 1) кужаль, 2) расчосьсю, 3) зрэб'ю, 4) воўну.

Уставала ў поўначы і прала аж да дня і ў гэтым тракце гатавала ежу. Айцец таксама ўставаў рана і даваў яду каровам, каню, авечкам; а пасьля з ліповых лыкаў плёў лапці, бо пераважна зімой хадзілі ў лапцях, а толькі ў сьвяточныя дні абутка была скураная. Або, як было патрэба, рабіў або папраўляў сані і санкі, ці

*) Віктар Велентыновіч.

калёсы, шыкаваў калёсы, — ўсё і сталярную і цясельскую работу — дзеля хатняга абыходу — рабіў сам. Толькі жалезныя работы ішлі да каваля.

Як толькі рабілася санная дарога, бацька езьдзіў на заработкі: вазіў на сплаў бэлькі на бе-



*а. Віталіс і малодшы брат, а пасярод іх матка: відаць, што фото зложана з даўнейшых здымкаў, бо матка выглядае малодшай ад а. Віталіса.*

раг Заходняй Дзьвіны, 45 вёрст, і за два дні зарабляў адзін рубель. Ніякіх іншых блізкіх заработкаў ня было.

Дзякаваць Богу, былі рэлігійныя: ніколі і самі ня селі да стала без пацераў і нам не давалі. У сьвяточныя дні і ў нядзелі хадзілі да касьцёла на сьвятую літургію. А было нас, дзяцей 8-ра: 3-е памярлі, а 5-ра нас гадавалася. У меру, як мы ўзрасталі і мацнелі, памагалі бацьком, як патрапілі, у іх працы. Быў я, як іншыя хлапцы, толькі што любіў хадзіць да касьцёла.

У веку ад 10-ці гадоў выяжджалі на сэзонныя работы, на цэгляныя фабрыкі ў Рыгу, у Мітаву (Елгава), або ў ваколіцы Пецярбурга (Колпіно на Іжоры), а пад восень вярталіся да хаты і зaробленыя грошы аддавалі бацьком. І я таксама езьдзіў на работы ў цагельні.

Усіх нас мама навучыла чытаць на кніжцы да набажэнства, а нават сьпяваць рэлігійныя песьні: сама была дачкой вясковага арганістага і мела кантычку.

Увага! Кажнай вясной прыяжджаў у гміну падрадчык, набіраў хлапцоў і мужчын і вёз у сваю фабрыку, дзе быў загадчыкам і пільнаваў работнікаў: называўся ён прыказчыкам.

Я спачатку пасьвіў гусей, пасьля авечак, сьвіней і кароў. У вёсцы — з малымі выняткамі — была заўсёды згода. Жывёла ўсяе вёскі пасьвілася разам: кіраўніком быў наняты чалавек, які называўся пастыром. Начаваў з ядой ад штукі кароў па чарзе ў кажнага гаспадара.

Вясну, лета й восень, пакуль было цяпло, я езьдзіў на супольны начлег з канём: па чарзе адзін ня спаў і пільнаваў коняў ад ваўкоў, зладзеяў і ад шкоды, а ў небасьпецы будзіў усіх. Дый у нашай вёсцы кажны пільнаваўся — ня толькі, каб ня прычыніць шкоды себе, але й другім.

Паводля рэлігіі вёска дзялілася на палавіну — каталікоў і праваслаўных; але ў касьцёл пераважна хадзілі і праваслаўныя, бо да царквы яны мелі 9 кілям., а мы да касьцёла паўтара кілям. Наагул жыла вёска дружна, а ў няшчасьці памагалі наўзаем.

Характэрна, што нават праваслаўныя сьвятары заклікалі на паховіны каталікоў, каб адсьпявалі «Анёл Панскі». І наагул заклікалі каталікоў на праваслаўных паховінах сьпяваць каталіцкія рэлігійныя песьні.

І вось гэтак мне жылося, пакуль я кончыў 16 гадоў. Мае браты і далей езьдзілі на сэзонныя работы на фабрыку, а са мною здарылася нешта іншае....

*

У 1906 годзе у лістападзе мы ўтраіх — тата, старшы брат і я — ўсе ў лапцях — зьбіраліся ехаць у лес па дровы — аж неспадзявана перад нашым домам затрымаліся коні нашага пробашча, які зара ўвайшоў у хату.

Усе мы, ведама, спужаліся, бо ніколі пробашч у вёсцы ня бываў, апрача што да хворага. Сказаў пахвалёнку і мы з ім прывіталіся; а ён адразу пытаецца, каторы з вас ёсьць Віталіс? Я спужаўся, але змушаны быў прызнацца, што я — Віталіс. Тады ён кажа: «Назначаю цябе — будзь настаўнікам дзяцей у маей вёсцы! Сьпішы дзяцей, хто хацеў-бы вучыцца па польску і прыйдзі да мяне і я дам лемантары і іншыя кніжкі дый школьныя прылады. Будзеш вучыць чытаць-пісаць, катахізму і рахункаў».

А я кажу, што сам ня ўмею пісаць па польску, а толькі па расейску. Пробашч кажа далей: «Дам табе 3 рублі на месяц і будзеш вучыць. А пісаць я цябе падвучу сам: вечарамі будзеш прыходзіць да мяне і колькі я цябе навучу, ты гэтулькі вучы іх і годзе!

Гэты пробашч называўся Віктар Валентыновіч, беларус; але тады яшчэ ня было мовы аб беларускіх школах і ня было падручнікаў. Але ён распаўсюджваў рэлігійныя часапісы — «Пшыяцель Люду», «Зожа Віленьска», «Газэта Сьвёнтэчна» і беларускія — «Наша Доля», «Наша Ніва» і «Беларус», а таксама выпісваў календары і раздаваў.

(Гэты пробашч у 1916 годзе быў пераведзены ў горад Мсьціслаў Магілёўскай губэрніі на дзекана. Пасьля ў часе прасьледу рэлігіі ў гадах 1920—21 быў арыштаваны і ў турме замучаны).

І вось я такім чынам стаў вучыцелям і вучыўся сам, спачатку ў свайго пробашча, а пасьля, як прыехала сюды вучыцелька, Альбэртына Падольская, дык заступала пробашча і я вучыўся ў яе. — Аднойчы яна спыталася ў мяне, кім я хацеў-бы быць? І я адказаў, што хацеў-бы

стаць сьвятаром... Я-ж аб сьвятовасьці ня меў паняцьця, а любіў чытаць рэлігійныя кніжкі.

Скуль у мяне ўзьнікла такая думка аб сьвятарстве?

А вось скуль: Кажнае лета да нашага пробашча прыяжджалі на вакацыі студэнты-клерыкі з духоўных сэмінарыяў, якія на мяне зрабілі вялікае ўражаньне, асабліва тым, калі асыставалі на сьвятой літургіі. Нарэшце гэтую думку я выказаў і самому пробашчу, што ён прыняў да сэрца і назначыў мне 3 дні ў тыдні прыходзіць на лацінскую навуку. Значыць, мая справа прыняла большы разгон.

Апрача таго сам пробашч і вучыцелька пазнаёмілі мяне і рэкамандавалі гаспадарам маёнтку Чарапоўшчына, Маліноўскім, а гэтыя ўзяліся за справу практычна: там студэнт Альгерд Маліноўскі ўзяўся мяне давучваць, а ягоная цётка Грасыльда, галоўная вучыцелька, нават вучыла мяне лацінскае мовы. (Той самы Альгерд быў у пазьнейшым часе віцэ-ваяводай у Вільні).

Па нейкім часе цётка Грасыльда рэкамандавала і паслала мяне ў маёнтак Вухівішча спадароў Івашэўскіх. Гэта былі двое старэнькіх, Антон і ягоная жонка Леантына з Мікульскіх. Дзяцей яны ня мелі, а былі дужа багатыя і даходы аддавалі пераважна на адукацыю беднай моладзі.

Прачытаўшы пісьмо, якое я прынёс ад Маліноўскіх і даведаўшыся аба мне ад пробашча, прынялі мяне на далейшую навуку. Спачатку вучыўся я ў студэнтаў, якія прыяжджалі да Івашэўскіх на вакацыі і нават былі нанятыя некаторыя з іх: яны шыкавалі мяне і іншых у нашай групе да эгзамену на аптэкарскага вучня, а пасьля паслалі мяне і яшчэ дваіх у Маскву. Мае таварышы здалі эгзамен, а мне ня ўдалося!

Зноў я вярнуўся да Івашэўскіх, а быў год 1910. Тады якраз выйшаў загад ад Міністэрства прасьветы — ня прыймаць у сэмінарыі клерыкаў з атэстатам аптэкарскага вучня, а дамагацца пасьведкі аб скончанай 4-ай клясе клясычнай гімназіі.

Але цяпер мне падыйшоў тэрмін ісьці на ваенную службу. На шчасьце я выцягнуў бялет высокай клясы і мяне залічылі на службу як надлічбовага, а пасьля 5-ці месяцаў звольнілі, залічаючы ў рэзэрву І-ае катэгорыі.

Вярнуўшыся з войска, я зноў узяўся за навуку, даганяючы праграму 4-ай клясы: перш у тым самым маётку Івашэўскіх, а пасьля ў гор. Полацку. 1913 году вясной у горадзе Белый я здаў эгзамен з 4 клясаў дзяржаўнай гімназіі. І той-жа вясной паехаў у горад Сэйны Сувальскай губэрніі і там здаў эгзамен у каталіцкую духоўную сэмінарыю.

Аднак у восені, калі прыехаў у Сэйны, паведамілі мяне (1913 г.), што сувальскі губэрнатар мяне ў сэмінарыю не зацьвердзіў. Калі-ж я паехаў у Сувалкі да губэрнатара, каб даведацца аб прычыне, дык той проста адказаў: «Усё ў парадку і прычыны няма, але я не зацьверджу і нічога мне ня зробіш!»

Тады, выяжджаючы з Сэйнаў, я напісаў у духоўную сэмінары ў гор. Влоцлавэк у Польшчы і выясьніў аб сваім палажэньні. Адтуль напісаў мне рэктар сэмінарыі Ідзі Радзішэўскі: «Прыяжджай найскарэй!» Губэрнатар Варшаўскі мяне зацьвердзіў. Так я памысна перайшоў праз год І-ы курс.

Калі я прыехаў 1-га жніўня 1914 году на ІІ-гі курс, — у гэтую ноч была аб'яўлена вайна! — з суботы на нядзелю. Па абедзе ў нядзелю прыйшоў да сэмінарыі біскуп Зьдзхоўскі і аб'явіў, што з прычыны вайны навука перарываецца. А была агульная апінія, што вайна доўга трываць ня можа...

Карыстаючы з нагоды, я паехаў да сваіх на Віцебшчыну, аднак мне не хапіла ў дарозе грошаў і мог даехаць толькі да Седлец. Што-ж рабіць? Выйшаў з цягніка і пайшоў да касьцёла. У Седльцах зайшоў да вікарага і расказаў яму аб сваім палажэньні: гэты добры чалавек даў мне грошаў на бялет аж на мейсца, а з дому — з вялікай падзякай — я адаслаў вікараму ўсю суму. І зараз паехаў да сваіх дабрадзеяў Івашэўскіх.

Так прайшло два гады вайны. Занятні ў мяне былі розныя: то быў павятовым пісарам, касірам, то даваў лекцыі слабым вучням, якія не паздавалі экзаменаў. Адну вучаніцу прыгатаваў да VII-ай клясы жаночай гімназіі і яна ўдала здала патрэбныя эгзамены: гэта была сястра ксяндзе Міхала Пятроўскага. У працягу гэтага часу я стараўся трапіць у сэмінарыю ў Вільні і ў ў Пецярбурзе, але і тут і там мне адказвалі, што абсалютна няма вольнага мейсца! І толькі, дзякуючы пратэкцыі маіх дабрадзеяў, якія былі паважанымі ў духоўных сфэрах, удалося мне дастацца ў сэмінарыю ў Петраградзе і там я кончыў ІІ-і і ІІІ-ці курс.

Рэктарам быў тады ксёндз Балтрушыс, прафэсарамі Кс. Кс. Сьвіркоўскі, Чэслаў Фалькоўскі, Каз. Рэклайціс, Фабіян Абрантовіч, Вэтманскі.

На ІІІ-ім курсе атрымаў я сакрамант Хрызму-(бермаваньне) і 4-ы меншыя сьвянчэньні, з рук біскупа Яна Цепляка. Але з ведамай прычыны (вайна і рэвалюцыя ў Расеі) сэмінарыя ліквідавалася і мне зноў удалося даехаць да Влоцлаўка і я трапіў на IV-ы курс дый прайшоў на V-ы. Аднак даўжэй вучыцца там ня мог — дзеля вельмі слабога аджыўленьня — аж у мяне кідалася з горла кроў! Мясцовыя клерыкі атрымлівалі помач ад сваіх родных і маглі далей вучыцца.

Доктар парадзіў мне знайсьці семінарыю з лепшым утрыманьнем. Калі я ехаў на вакацыі да свайго вялікага прыяцеля, Кс. Каз. Кулака, (мы з ім былі прыяцелямі ад Петраграду), дык ён запрасіў мяне да свайго дому, бо мая родная старана была занята чужынцамі. Але я даехаў толькі да станцыі Лапы, дальш ехаць было тады нельга, дый тут ня было ў мяне нікога знаёмага.

Тады я ўбачыў на другой старане ракі Нарва касьцёл і перайшоў мост жалезнай дарогі і апынуўся ў ксяндза-пробашча парахвіі Угова, Адама Абрамовіча: ён ветліва мяне прыняў хаця-бы і на ўсе вакацыі. Ён вельмі быў заняты будаваньнем касьцёла ў Угове і я, чым мог, памагаў яму. Але кс. Каз. Кулак выклікаў мяне і прымушаў прыехаць; а ў гэтага Абрамовіча была труднасьць з прадуктамі, бо часы былі цяжкія. Дык вось з вялікімі клопотамі я дабраўся да К. Кулака, які быў тады яшчэ клерыкам і я ўмясьціўся ў ягоных бацькоў.

Каз. Кулак часта гасьціў у кс.-дзекана Гауля, які прымусіў яго перадаць мяне ў клябанію: такім чынам я ўжо стаўся гасьцём дзекана. Дзекан Гауль прыняў мяне надта ласкава, калі-ж даведаўся аб маіх клопотах, пастараўся ў Вільні, каб рэктар Ян Ушылла прыняў мяне ў Віленскую духоўную сэмінарыю.

Прынялі мяне на пяты курс і вучыўся там яшчэ тры гады. Першыя вакацыі правёў я ў Барунах, дзе быў пробашчам Кс. Міхал Пятроўскі і гэта быў 1920 год. Там я вучыў дзяцей катахізму — аж летам надыйшлі непрыяцелі (бальшавікі). Гэтыя нас зара арыштавалі і мяне, клерыка Каз. Смульку і пробашча М. Пятроўскага перавезьлі ў Ліду дый пасадзілі ў турму.

Лідзкія каталікі, сабралі для нас гэтулькі прадуктаў, што мы маглі падзяліцца з стражнікамі, якія нас пільнавалі і з іншымі вязьнямі. Кс. Язэп Дашума, вікары ў Лідзе, меў над намі добрае вока. А на канчатку ліпеня праводзілася інспэкцыя і прэзэс палявога трыбуналу, убачыўшы нас, выпытаў і назначыў сьледзтва, а нават варункова выпусьціў нас пад дамовы арышт у Лідзе, з нашым словам, што заўтра зьявімся на расправу.

Як мы назаўтра прыйшлі, дык ён нас і звольніў, а нам сакрэтна сказаў, што наагул звальняе інтэлігенцыю, а пакідае толькі крыміналістаў. Прытым даў нам «жалезныя прапусткі» з тым, што, калі знайдзем запячатаныя нашы памешканьні, каб зьняць пячаці.

Другія вакацыі праводзіў я ў таго дзекана Гауля, бо ў Барунах ня было ўжо пробашча М. Пятроўскага: ён быў пасаджаны ў польскую вязьніцу за тое, што падчас галасаваньня на сойм прамовіў па беларуску і выясьніў, якіх трэба выбраць у сойм людзей. Аднак яго незадоўга звольнілі з вязьніцы і Віленскі біскуп Юры Матулевіч даў яму — на ягоную просьбу — іншую парахвію.

І вось нарэшце я скончыў духоўную сэмінарыю ў Вільні!

Сьвянчэньні субдыякана, дыякана і сьвятарскія я атрымаў (1922), ад біскупа Ю. Матулевіча і ён паслаў мяне на вікарага ў Друю, дзе пробашчам быў Кс. Антон Зенкевіч. (Ён пару гадоў таму памёр у вялікай сьвятасьці).

А новым пробашчам у Друі стаўся а. Андрэй Цікота з Закону Айцоў Марыянаў. Аднавіцелям*) быў наш Віленскі біскуп Юры Матулевіч. І так я стаўся сам законнікам марыянінам, дзякуючы прыкладам і асцэтычнаму жыцьцю Зенкевіча і Цікоты. Але яшчэ з паўтара гада я меў шчасьце працаваць з А. Зенкевічам у Друі ў характары вікарага і капэляна ў школах цэлай парахвіі; але-ж неяк я даваў сабе раду і пробашч быў здаволены, бо праца ішла добра.

Трудней стала, калі нашых мясцовых настаўнікаў пазабіралі ў глыб Польшчы, а адтуль наслалі чужых і недасьведчаных дый варожа настроеных да кляштару. Аднак, пры Божай ласцы, і з імі ўдавалася ладзіць. Калі-ж прыбыў у Вільню новы арцыбіскуп, справы папсаваліся. Тымгорш, што ў нашыя староны прыбыў ведамы неспакойны Кс. Язэп Randзіч. Я-ж дастаў дымісію ад школаў, хоць тымчасова вёў некаторыя неабсаджаныя прэфэктам польскім. Так я працаваў у парахвіі да 1938 году.

У апошнім часе быў я мізэрным магістрам навіцыяту, — аж пакуль нас ня вывезьлі з Друі ў Польшчу.

У Варшаве на Белянах быў я вікарым (субстытутам) — аж пакуль нас — усіх законнікаў — ня вывезьлі ў Гетшвалд пад Ольштынам, дзе мы пратрывалі да сьмерці Сталіна. Пасьля таго ў 1956 г. было вольна вярнуцца, але мяне перанесьлі на Віленскую вуліцу (Варшава—Прага) — бяз прыдзелу сталае працы, пры касьцеле Божае Маці — з Люрд.

Блізка што ўвесь час прабываньня ў Варшаве я спаўняў абавязак спаведніка законнікаў сваіх і ў некаторых кляштарах жаночых.

З жаночых Законаў быў спаведнікам у розных кляштарах, як «Аблічча Збаўцы», Дамініканак, Уршулянак, Сэрцанак, Францішканак у Лясках пад Варшавай, якія апякуюцца сьляпымі недаразьвітымі, пасьля ў Сакрамэнтак, Фэліцыянак, у Візытак і інш. — Усё паводля Кананічнага права, з належнымі перарывамі.

Ведамка аб здароўі: атак нэрвовы, як выказалі аналізы і здымкі рэнтгену: мушу цяпер трымацца сьціслай дыеты.

---

*) Гэтага Закону.

# Малітва

Адвечны Божа,
Ўладар зямлі й нябёс,
Душу мне ўсьцяж трывожа
Майго народу лёс!

Як доўга у пакутах
Цярпець чужацкі зьдзек?
Парві няволі путы
І дай свабодны век!

Хай ён, як ўсе народы,
Цьвіце ў сваей красе, —
Як кветка ў час пагоды
Зазьзяе на расе!

Хай аддае Табе хвалу
За прыкладам Сьвятых, —
Ў хвіліну радасьці, ў бядзе —
На нівах залатых!

Тваё Імя хай сьвяціцца —
Ад вякоў і ў век;
Няхай край наш залаціцца! —
Беларус — Твой Ч-а-л-а-в-е-к ! ! !

*Часлаў Самотны*

# Вячорная містэрыя

Золатам тканаю рызаю
накрылася неба без хмар.
Пацеркі зораў нанізаных
вечар кладзе на аўтар.

Месяц над возерам кадзіць
струменямі дымнымі зор.
Сыплюцца зоры ў прысадзе
на белы дзяўчыны прыпол

Б'юць цені паклоны набожныя,
а лятучыя косы бяроз
атулілі крыжы прыдарожныя,
дзе плача драўляны Хрыстос.

1935. Ларыса Геніюш.

---

*К. Чабатар*

# Пакуль цукар стане салодкім...

Канец II-ой Вялікай вайны! Іншыя народы прынялі гэтую вестку з радасьцяй, а жаўнеры і ўцекачы, палонныя і зьняволеныя вярталіся з Нямеччыны дамоў з надзеяй адпачыць і адбудаваць жыцьцё. Але мы, беларусы, прынялі вестку аб супакою з жахам і сумам: нам паварот на дарагую Бацькаўшчыну быў зачынены, бо там ужо гаспадарыў Люцыпар і іншыя чэрці!

Пратрымаўшы 5 гадоў па розных лягерах, нас — ахвяраў вайны і нацызму — пачалі распіхаць па іншых дзяржавах.

А наш Кастусь, яшчэ будучы ў пачатковай школе, зачытываўся калісьці кніжкамі аб заморскіх прыгодах: «Дух пушчы», «Жыхар пушчы», «Дзеці капітана Гранта» і інш. Дык цяпер пацягнула за мора і Кастуся. Але ў ведамую ўсім Амэрыку адмовіўся, затое Аўстралія і яе дзікія пустыні запаланілі яго . . .

І, бывала, калісьці часта, што бацька, прылавіўшы Кастуся за кніжкаю, выпісваў яму «навуку» смаглым рэменям там «скуль ногі растуць».

— «Мне вучоных ня трэба», — казаў ён, падперазваючы дзягай свае порткі: «Я ня быў вучаны, а хлеб з саладухай ці з бульбай еў. А ты хлебанеш гора, шукаючы шчасьця, дык і пазнаеш, па чым гарнец ліха ! . . .»

*

Дык вось стаяла гнілая баварская зіма. Ляпаў лапцямі мокры сьнег, пакрываў стрэхі і вокны замазваў цалкам. І Кастусь, ледзь могучы праглянуць праз вакно, у душы загаласіў: «Бывай здарова Эўропа! Мы коцімся ў няведамае . . .»

Баварыя, Аўстрыя, Італія мігалі за вокнамі. Цягнік імкнуўся ўсьцяж на паўдзён і ўглыбляўся у сіняватую імглу, перарэзаную белымі плямамі аздінокіх хатак. І бачылася, як па далёкіх шляхах, сівымі туманамі ўзносіцца імгла і пыл.

На дварэ палымнела сонейка: адчуваўся водар італьянскае вясны; да яго мяшаўся смурод паравознага дыму і пары. — Аж толькі ў канцы сакавіка Кастусь дабраўся да «запаветнай» зямлі, — Аўстраліі!

Калі карабель праходзіў праз Чырвонае мора, пабачыў — (хіба ўжо апошні раз?) — беларускіх буськоў, што вярталіся з выгнаньня на сваю радзіму. Яны цянюсенькай палоскай працягнулі праз наш шлях і далей ўжо як-бы клаліся на ваду. Прыглядаліся ўсе людзі на іх, як

праплывалі пад небам. А Кастусь адчуваў, як зашчымела сэрца, а сьлёзы здушылі горла, што ледзь не заплакаў!

Успомнілася старая ліпа пры хаце, на якой было гняздо, а буслы кожную вясну віталі сваю радзіму радасным клекатаньнем!» Ах, дарагія бусьлікі! ці прыдзецца калі яшчэ хоць разок вас пабачыць? Вы вяртаецеся дамоў, а я куды?» так пытаўся Кастусь у душы сваіх прыяцеляў . . .

Ну, і прышлося сапраўды хлебануць гора на морах-акіянах у працягу 30-ці дзён падарожы!

Паводле абычаю мараплаўцаў, хто ўпяршыню пераскочыць экватар, павінен быць там «ахрышчаны»! Хрысьцілі і Кастуся. Найперш выходзілі на памост да ўсяе публікі тры паважныя асобы: Нэптун, ягоная жонка і паслугач. Там хапалі кандыдата, (які не патрапіў у іх выкупіцца), і садзілі на столічку, дзе спэцыяльны цырульнік намыльваў яму твар і галаву разведзеным у вадзе мылам (у вялікім вядры) і пасьля галіў вялізарнай драўлянай брытвай. У кандыдата былі замазаныя вочы намылянай марской вадой. Тады зьнянацку сьпіхалі яго ў басэйн з морскай вадою: тым пасьпешна прыслугачы цырульніка абмывалі ахрышчанага, а другія выцягвалі яго на «сушу», а сам Нэптун урачыста выдаваў яму гатовую вельмі прыгожую мэтрыку хросту.

Але найцяжэйшая дарога чакала іх, як адплылі ад Цэйлёну. Раскалыхаўся ўвесь Індыйскі акіян! Наляталі такія горы вады, што здалося — вышэй разы тры чым карабель; падкідалі яго як лупінку — то падыймаючы ўверх, то кідаючы ў прорву, а масы вады зьліваліся з памосту з шумам вадаспаду Ніягары. Трэск і скрып драўляных і мэталёвых частак карабля, шум каскадаў вады, плач дзяцей, войканьне жанчын — усё зьлівалася ў адно і грала разам з усімі снасьцямі як гіганцкія арганы ў вялізарнай катэдры!

А дзеля таго, што ўсю дарогу кармілі італьянскія кухары макаронамі, дык цяпер гэтыя самыя макароніцы расплываліся з людзей па ўсім памосьце і па каютах, дзе каму прышлося . . .

Пачуўся нейкі расейскі выкрык: «Ах, Господзі, за что ты меня наказываеш?» Бо і праўду людзі кажуць: «Як трывога, дык да Бога!» —

*

Вось і Аўстралія! Кастусь трапіў у пральню, дзе прышлося награваць драўмі шэсьць вялізных катлоў, з якіх неслася нездаровая сівая пара ад бялізны. Ля агня сядзеў на кукішках сівы, тонкі як тычка нэгр, вечна курыў і паглядаў на Кастуся жоўтымі вачыма.

«Ты — малады, казаў ён, паказваючы свае белыя як рэдзька і доўгія зубы. Ты — белы, а я — нэгр, але ўсёроўна нам дрэнна: есьці мала, а рабіць шмат ! . .»

«Так, містар! — згаджаўся Кастусь: — кепска нам жыць і канца ня відаць ! . .»

«Ты — малады, — паўтараў нэгр: — рабі шмат, еш мала ! . .»

І сам гэты нэгр быў такі худы, што порткі спаўзалі ў яго на клубы, адкрываючы чорны, бліскучы жывот.

Ён прасаваў мужчнскія сарочкі — усьцяж аднастайная работа . . . Яна здавалася Кастусю горш нямецкага канцэту. Дый тыя самыя кашулі вярталіся ў пральню кожны тыдзень, нэгр старанна іх прасаваў, а за тыдзень яны прыходзілі нанава . . .

Аж раптам нэгра звольнілі! Кастусь пасьпеў з ім здружыцца, дык цяпер вельмі засумаваў . . . І гэты сум усьцяж разрастаўся: ім было насычана навакол усё, і ўсё было накрыта гэтым самым сумным небам — высокім і запыленым — праткнутым чужымі і рэдкімі зоркамі. А наўкол абыймала чалавека сухое паветра, тырчэлі сумныя дрэвы без кары, клекатала няпрывычная ангельская мова. Але найбольш мучыла аднолькавая работа!

*

Прыпомніліся бацькавыя словы: «Дзе добра плацяць, то пакуль бедны дойдзе, дык багаты даедзе». Аднак Кастусь згадзіўся на працу ў цукровых плянтацыях. Ад раньня да вечара ішлі радамі па палях трысьнягу і зсякалі яго пад корань крывымі тоўстымі нажамі як шаблямі. На палетках стаяў сьпёрты дух, ад яго ныла і кружылася галава, а ў вачох паказваўся рой розна-каляравых зорак. Ішлі работнікі сагнутыя ў дугу — аж балела сьпіна! Кастусь папрабаваў мякаць у трасьцінцы: яна была прытарна-ліпкай і пахнула аптэкай.

Наглядаў высокі сухі чалавек з доўгім носам. Называлі яго «бос». У працягу дня толькі гэта і ведаў, што хадзіў па палетках, як бусел па выгане. Затрымаўся раз ля Кастуся, глянуў на яго сумны выгляд і кажа: «Я быў работнікам, а цяпер я — наглядчык: гэта-ж — Аўстралія!»

Ноччу спалі ў бараках. Між сабой амаль ня гутарылі, дый зрэшты работнікі былі рознамоўныя, набраныя толькі на зборку аднаго ўраджаю. Вечарам пілі каву і зразу-ж валіліся на ложак спаць да самага раньня!

Маркота не пакідала Кастуся. Затрымліваўся і стаяў па некалькі хвілін, углядаючыся ня ведама куды. Пасьля, даганяючы сяброў, сек як папала.

Аднойчы бос пачаў лаяць Кастуся, што сячэ за высока, бо нібыта ўся салодкасьць ліпіць пры самым корані. Усе чулі розныя брыдкія словы. Кастусь затросься як асінавы лісток і адказаў:

«Калі я такі, то ты двойчы такі! Раббітс брайн . . .» (Кролікавы мазгі). — Бос пачырванеў як памідор, падыйшоў упрытык і пачаў штурхаць грудзьмі ў бок Кастусю.

Але, як гаворак: «Беларус — ня трус!» — Дык Кастусь і дзерганў боса тупым канцом на-

жа па спаленым ягоным лобе. Рабочыя выпрасталіся: яны адразу не маглі скумекаць, што сталася, бо страшнае сухое сонца смажыла і іхныя галовы — аж туман быў у вачах!

Бос схапіўся за лоб, з якога пачала сачыцца фарба, адняў далонь чырвоную ад крыві і чамусьці лізнуў яе дый тут-жа кінуўся на Кастуся. Але яго адразу схапіў за плечы работнік украінец (сябра і таварыш Кастуся) — адзіны вясёлы чалавек у кампаніі. Ён часта гаварыў Кастусю: «Не бядуй, браце! Мы ня гэтулькі пеpажылі, пеpажывём і гэтае!» І часта зацягваў: «Рэвэ тай стогне Дніпр шырокий!» А меў ён мускулы Гэркулеса і бычыную шыю. Яго так і называлі: «Гэркулес!»

— Бос! — крыкнуў Гэркулес: — «Кролічыя мазгі!» — (так усе боса абызывалі). — Трэба з табою палічыцца па эўрапэйскаму за майго сябра. —

Ён паказаў на Кастуся.

— Замоў спачатку даведку аб сьмерці! — адказаў бос і пачаў закасываць рукавы. А Гэркулес шпурнуў аб зямлю свой капялюш, некалькі разоў сьціснуў і разьняў кулакі і рантам як грымнуў боса ў пераносіцу, дык той як сноп і паваліўся ў гурбу трысьця!

Гэркулес недзе змыўся. Вечарам наехала паліцыя ў сіняй вопратцы і белых шапках з бліскучымі нумарамі і літарамі на грудзях — «Поліцэ»; мелі і перакладчыка. Боса з зламаным пераносьсем забралі ў шпіталь, а ўсіх рабочых звольнілі.

*

Кастусь з некалькімі сябрамі пайшлі пешкі ў горад Брысбэн шукаць шчасьця. «Шукаць шчасьця» . . . Колькі-ж разоў Кастусь успамінаў бацькавыя словы:

— Хлебанеш гора, шукаючы шчасьця, то і пазнаеш, пачом гарнец ліха!»

Але шчасьце асталося на Бацькаўшчыне. А чужое неба і чужыя краіны нас радуюць толькі на вельмі кароткі час. І прыйдзе пара, што адзінокі каласок ля роднай хаты здасца нам мілейшым чым зорачнае неба над Вялікім акіянам; а крык пеўня прагучыць нам, як голас радзімы, што нас кліча на свае палі і ў лясы пакрытыя сівым туманом ! . .

## *З царкоўнага жыцьця*

# Малітвы пра адзінства Хрыстовай Царквы

У днях 18—25 студзеня, як звычайна, так і ў гэтым годзе адбываўся Тыдзень Малітваў: Каталікі, праваслаўныя і пратэстанты зьбіраліся разам, маліліся і слухалі прамоўцаў — ня толькі сваіх, але і іншых вызнаньняў. І так, у катал. катэдры ў Лёндане прамаўляў праваслаўны архіерэй Атэнагар і мэтодыста Годон Ватэфіэльд, а ў агнліканскай катэдры сьв. Паўла меў прамову кардынал Гінэнан. Падобна дзеілася і ў іншых гарадах Англії і амаль ня ўва ўсіх хрысьціянскіх краінах.

Галоўная думка малітваў была тая, каб Бог давёў усіх хрысьціянаў — нязгодных і разлучаных — да адной веры — ў часе, які Сам ведае і сродкамі, якія Сам уважае за адпаведныя. Бо адзінства веры і Царквы — справа Божая, а людзі — толькі Божыя супрацоўнікі.

Наагул Тыдзень прайшоў у добрай атмасфэры, за выняткам прыкрага закалоту, які прычынілі пратэстанцкія фанатыкі, што крычалі ў катэдры сьв. Паўла, празываючы д-р Рамсэя здраднікам, а кард. Гінэна «антыхрыстам». Але і гэтая невялікая замінка паказала народу, якое вялікае значэньне мае ўзаемная любоў і зразуменьне, а таксама і пашана да пракананьняў іншых людзей.

Кард. Гінэн казаў, што нельга ўгадваць, калі наступіць злучэньне: людзі маюць толькі супрацоўнічаць праз малітву, праз помач цеpплячым і праз апостальскую працу, асабліва сярод тых, што не знаюць Хрыста або ад Яго адыйшлі.

А прытым заўважыў, што цяпер разьдзел у хрысьціянстве не заўсёды ёсьць грахом, бо нямала такіх, якія радзіліся і жывуць у сваей рэлігіі. Аднак заўсёды будзе грэх і згаршэньне, калі сярод нас ня будзе любові. Маем таксама абавязак пазнаваць розьніцы ў вера-вызнаньнях, каб дайсьці да яснага пракананьня і прыняцьця адзінай праўдзівай веры Хрыстовай.

*

РЫМ — ВАТЫКАН: Папа таксама — ў сувязі з Тыдням Малітваў — падзяліўся сваімі заўвагамі адносна экумэнізму. Гэта адносіцца больш да каталікоў.

«Справа адзінства веры — казаў Павал VI — вымагае ад каталікоў зьмены адносінаў да інакш веручых. Трэба ў новым духу глядзець на аддзеленых хрысьціян, на спрэчкі і памылкі, якія давялі да гэтага падзелу. Такім новым духам мае быць дух жалю, пакоры, любові і надзеі. Мы ня можам даволіцца толькі абароннай паставай. Мы павінны прынамся цярпець з прычыны калецтва (Царквы) — Містычнага Цела Хрыстовага, што прычыніў разьдзел. І мы мусім пакорна прызнаць і нашую частку ў маральнай віне гэтага няшчасьця. Мусім ацаніць усялякае дабро хрысьціянскай спадчыны, якое

сьцеражэцца і культывуецца ў адлучаных братоў.

«Маем ўсьцяж з цэлага сэрца маліцца, каб заслужыць на іх давер».

Адначасна Папа перасьцярог перад пасьпешнай эгзальтацыяй і павярхоўнай працаю над злучэньнем хрысьціян. Таксама і залішняя крытыка каталіцтва ці выхваляньне другой стараны не аддасьць паслугі Хрысту.

*

## СУСЬВЕТНЫ СЫНОД БІСКУПАЎ

Адбудзецца ў кастрычніку. Ватыканскі Сабор выклікаў вялікае ажыўленьне ў царкоўным жыцьці. Але дакрэты Сабору ня вырашылі ўсіх сумніваў і патрэбаў жыцьця, а дыскусіі перанесьліся да самых далёкіх канцоў сьвету. Нямала справаў, што былі закранутыя на Саборы, цяпер дасьпела і іх трэба канчаткова рашыць. Між іншым прадбачыцца, што якраз на гэтым Сынодзе трэ будзе амовіць і выясьніць справу засягу ўлады самога Папы, сусьветнага Сабору і краёвых Сынодаў, а таксама ўладу кажнага біскупа.

Гэтага вымагае адзінства Царквы і яе дзейнасьці у цяперашніх умовах пасьля Сабору.

Папа выслаў да біскупаў жаданьне, каб духоўныя і сьвецкія высказаліся, што ўважаюць за патрэбнае рашыць на Сынодзе?

Біскупы сваім парадкам паведамілі пра гэта сваіх вернікаў спэцыяльным пасланьнем.

*

ГАЛЯНДЫЯ: Каталіцкая Царква перажывае тут даволі цяжкую пробу. Значная частка маладшага духавенства і сьвецкіх, асабліва студэнтаў, дамагаюцца рашучых зьменаў, як скасаваньня цэлібату, разводаў, а некаторыя хочуць самі дэцыдаваць аб веры і маральнасьці. Асабліва гэта праявілася пры нагодзе энцыклікі «Гуманэ Вітэ».

Студэнты скандавалі перад кард. Альфрынкам: «Хрыстос выгнаў гандляроў із сьвятыні, а Папа выганяе нас з рэчаіснасьці». Гэта была альлюзія да забароны штучных сродкаў супраць пачацьця.

Кард. Альфрынк упэўнівае, што ўсе хочуць трымацца Катал. Царквы, але жадаюць дастасаваць яе да вымогаў жыцьця. Але француская гзэта «Ле Монд» уважае, што кардынал дзеіць нерашуча і не гаворыць ясна, чаго трэба трымацца і што Богам забаронена.

*

НЯМЕЧЧЫНА: На зьездах біскупаў у гор. Фульда выясьнена, што ўсе вернікі нясуць адказнасьць за справы Царквы — духоўныя і сьвецкія, але кажны згодна з сваім прызваньнем і магчымасьцяй. Таму на жаданьне апошняга Сабору арганізуюцца пры біскупах Пастырскія Рады, у якія ўваходзяць сьвятары, законнікі і сьвецкія; а дэлегатаў выбіраюць вернікі на сваіх сабраньнях. Задачай гэтых Радаў будзе — памагаць біскупам сваімі прапановмі. добрымі радамі і працай.

Аднак-жа біскупы падкрэсьлілі, што Царква мае іншы характар, чымся сьвецкія ўстановы, а справы веры і маральнасьці не асуджаюцца бальшынёю галасоў. Хрыстос гэта даверыў апосталам і іх наступнікам.

Біскупы асцерагаюць вернікаў, каб ня ўчасьнічалі ў таінствах (сакрамантах) у інаверных набажэнствах, асабліва ў сьв. прычасьці (камуніісьвятой). Ясная рэч, што гэта датычыць пратэстантаў, бо сьв. тайны ў Праваслаўнай Царкве лічацца важнымі і ў важнай патрэбе приступаць да іх дазваляецца.

*

ПАТРЫЯРХ АТЭНАГАР высказаў перад карэспандэнтам, што ягоныя спатканьні з Паўлам VI-ым у працягу 5-ці гадоў (у Ерузаліме ў 1964, у Турцыі — у 1967 — летам і ў Рыме — ўвосені 1967) маюць вялізарнае значэньне ня толькі для Каталіцкае і Праваслаўнае Царквы, але і для ўсяго хрысьціянскага сьвету.

Пры кажнай сустрэчы яны абодвы выказвалі сваю надзею і жаданьне, што мусіць наступіць лучнасьць Цэркваў і што яе 900 гадовая рана мусіць быць залечана. «Нашае спатканьне ў Ерузаліме — казаў Патрыярх — стварыла ў Царкве новы клімат, у якім каталікі і праваслаўныя і цяпер жывуць. Папу Паўла VI называе «Наш брат у Рыме».

Адносна энцылікі «Гуманэ Вітэ» Патрыярх выразіў поўную падтрымку, што «Папа нясе цяжкі крыж спаўняючы свой абавязак нятолькі адносна Каталіцкае Царквы, але і ўсяго хрысьціянства на сьвеце».

ЗЛУЧ. ШТАТЫ АМЭРЫКІ: Нэгры дамагаюцца сваіх сьвятароў. У Чыкаго кард. Коды звольніў са становішча аднаго чорнага сьвятара і назначыў на яго мейсца другога нэгра. Але гэты пратэставаў, што ягоны папярэднік не атрымаў іншай парахвіі. Далучыліся да яго другія нэгрысьвятары ў ліку 9-ці. Яны адправілі супольную Літургію і паслалі пісьмо кардыналу, жадаючы, каб нэгры-каталікі мелі сваіх сьвятароў. Мы ня ведаем, ці гэты сьвятар надаваўся да працы, але гэта зусім натуральная вымога, што кажны народ і раса дамагаецца сваіх сьвятароў.

Толькі ў нашай Беларусі, на жаль, ня могуць гэтага зразумець і да гэтае пары даюць сьвятароў палякоў і расейцаў... Што-ж? чорныя — шчасьлівейшыя!

*

ВАТЫКАН: Кангрэгацыя ад законных справаў выдала інструкцыю аб законнай фармацыі. У апошнім часе законная дысцыпліна значна аслабела, дык загадваецца большая асьцярож-

нсьць пры вечных шлюбох і прадоўжаны час прыгатаваньня.

Проба і навіцыят будуць трываць па два гады. А пасьля навіцыяту няма шлюбаў — ні часовых, ні вечных, але даецца абяцаньне Закону, што будзеш спаўняць абавязкі ў ім, дый пасьля можна будзе прыносіць вечныя шлюбы.

Прытым час навіцыяту і, як і пробы, можа быць перарываны вонкавай, асабліва апостальскай працай і кантактам са сьвецкімі людзьмі; магчыма і спэцыяльна будуць пазваляць на кантакт і адыход на час з навіцыяту, каб кандыдаты набылі большую сьведамасьць і адказнасьць за вольны выбар жыцьця і шлюбоў законных.

✻

АБ «ГАРУЧЫХ» АХВЯРАХ У ЧЭХА-СЛАВАЧЧЫНЕ: Прамаўляючы да народу, падчас публічнай аўдыенцыі, Папа ўспомніў аб «Гаручых Ахвярах» — аб самагубстве аблітых бэнзынай, як пратэст супраць прымусовай акупацыі савецкай арміяй.

Папа казаў, што вельмі высока цэніцца ахвяра са свайго жыцьця дзеля бліжняга, аднак нельга пахваліць спосабаў такой ахвяры менавіта, самагубства і то такога жорсткага.

✻

АБ РАДЫКАЛЬНЫХ ЗЬМЕНАХ У ЖЫЦЬЦІ СЬВЯТАРОЎ: Такіх зьменаў дамагаецца значная частка сьвятароў у Галяндыі і Францыі. Папа адказаў: «Ёсьць шмат гаворкі, каб сьвятар улучаўся ў сучаснае грамадзтва... такім чынам, каб сьвятар стаў падобным да сьвецкіх людзей — вопраткай, заняткамі, разрыўкамі — сацыяльным, палітычным і собскім сямейным жыцьцём, зрокшыся цэлібату».

Але ці так трэба разумець волю Хрыста? Аднак Хрыстос «хоча мець нас (сьвятароў) у сьвеце, але ня сьвецкіх. Ці-ж Хрыстос не па тое паклікаў і выбраў сваіх вучняў, каб пашыралі Божае Валадарства? І ці-ж іх не аддзяліў і не зажадаў, каб пакінулі ўсё і пайшлі за Ім Самым? Ісус адарваў іх — і ня без вялікай ахвяры з іх стараны — ад іх звычайных заняткаў, пазволеных у сьвецкім жыцьці, ад нармальных справаў сьвецкага чалавека... І хацеў, каб яны зьвязаліся толькі з Ім і зусім аддаліся Яго справам беспаваротна».

Далей Папа падкрэсьліў, што вучні Хрыста былі сьведамыя, чаго Хрыстос ад іх вымагае. А Пётр апостал сказаў: «Вось мы пакінулі ўсё і пайшлі за Табою...»

«Дык ці-ж апостал, вучань, сьвятар, праўдзівы слуга Эвангельля — можа быць такім самым чалавекам у грамадзкім жыцьці, як кажны іншы? —

«Бедны, як іншыя? — Так! — Братам для другіх? — Так! — Слугою другіх? — Так! — Ахвярай за другіх? — Так!...

«Але адначасна ён (сьвятар) мае паручаную вялікую і спэцыяльную задачу. — Вы ёсьць соль зямлі, — Вы ёсьць сьвятлом сьвету. — Дык усё гэта будзе ясным і зразумелым, калі будзеце мець праўдзівую веду аб арганічнай структуры Царквы».

✻

АБ УНІФІКАЦЫІ ЭЎРОПЫ: Усе бачыць, казаў Павал VI, што цяпер найбольшай праблемай Эўропы ёсьць яе ўніфікацыя. Каб асягнуць гэта, палітыкі патрабуюць новай мэнтальнасьці ў міжнародных адносінах. Ня можа быць мэнтальнасьці нязгоды, гегемоніі, нацыянальнага эгаізму.

Папа ня можа і ня хоча ў гэта мяшацца, але кажа, што кажнага, асабліва яго ёсьць абавязкам стварыць адпаведную атмасфэру да згоднае супрацы, супольнай карысьці і пашаны адных да другіх.

✻

ІНДЫЯ: Каталіцкая Царква, якая мае там сваіх вернікаў, перажывае цяпер вялізныя цяжкасьці з прычыны недахопу там сьвятароў, законнікаў і законніц мясцовага паходжаньня. Урад забараняе прыймаць духоўных з заграніцы і загадвае такіх паступова выдаляць з Індыі. Таму ў найбліжэйшых гадах трэ будзе заступаць 700 сьвятароў, 200 законных братоў і 1000 сясьцёр. Паўдзённая Індыя мае большы процант сьвятароў, але ў Паўночнай вялікі недастатак.

✻

АНГЛІЯ: ГОНКА ЗА АБОРТАМ. У выніку легалізацыі аборту зрабіўся вялікі сьціск жанчын і доўгая чарга на аборт: брак ложак у шпіталях. І плацяць за іх ужо наперад, ня ўступаючы тым, што месяцамі чакаюць на апэрацыі ў самых паважных сваіх хваробах. Прыяжджаюць у Лёндан на аборты з Амэрыкі, з Швэцыі і з іншых багатых краёў, дзе няма перанасяленьня.

З вялікім неспакоем прызнаецца адзін паважны доктар, што ў прошлым годзе правялі аборты ў 400 дзяўчатак у веку да 16-ці гадоў! І кажуць, што пігулкі не здалі эгзаміну, хоць прыймаюць іх мільёны жанчын. А да абортаў апінія доктара і прыняцьце ў шпіталь лічыцца ўчынкам харытатыўным і плаціцца самыя малыя грошы. —

Адным словам, дзетазабойства з волі самой маткі і рукамі дактароў лічыцца ганаровым і дабрасумленным учынкам і, апрача Каталіцкае Царквы, якая сурова асуджае сьмерць нявінна забітых ненароджаных, дык іншыя Цэрквы маўчаць...

А прызваньне доктара ёсьць яснае: захоўваць здароўе людзей, асабліва дзяцей, а забойства — рамясло бандытаў!!!

# З лістоў у рэдакцыю

## З РЫМСКІХ ЛІСТОЎ

Хачу падзяліцца з Вамі сваімі ўражаньнямі з Вечнага Гораду. Думаю, што з роўным правам адны завуць яго «Сьвяты Рым», а другія — «Бабілён». Па мойму ён таксама нязвычайны — непадобны да ніякага іншага людзкога «мурашніка», як непадобныя і людзі, якія бегаюць, як мурашкі, па вуліцах Рыму да іншых, што кружаць па Варшаве ці Менску.

Апошні раз бачыў я Рым 34 гады таму і першае маё назіраньне будзе тое, што вялікія гарады не зьмяняюцца так лёгка, як — скажам — вёскі. І для мяне Рым астаўся тымсамым, як 40 гадоў таму, калі я ўпяршыню прыехаў сюды: зусім цяпер іншыя людзі, а прыймаюць мяне, як і тады, ветліва, далікатна і выразумела — аж здавалася, што я прыбыў да сваей радні — так цябе абслужаць з пашанай і ўвагай. Можаш пры іх гаманіць якой хочучы мовай — ніхто цябе не абсьмяе і ня будзе дзівіцца.

Вось за гэта ўжо адно можна палюбіць Рым, як сваю другую бацькаўшчыну! Гэта ня значыць, што тады Рым мне спадабаўся з першага погляду. Нават тады, ў 1929, я не адразу адчуў прыгожасьць і той асаблівы чар, які прыцягвае да сябе людзей з усяго сьвету. Каб палюбіць Рым, трэба ў ім пражыць ня менш 2—3 месяцаў, перамагчы ў сабе нездаваленьне з асаблівасьцяў італьянскага характару, напрыклад з таго, што яны пяюць і крычаць на вуліцах нат і ў ночы.

Да гэтага трэба проста прывыкнуць, як на вёсцы прывыкаем да таго, што сабакі ўначы брэшуць, пеўні пяюць і інш. Ґаніякі гаспадар ня будзе на гэтага наракаць, а бадай скажа: «Гэта надта-ж міла!»

Вось і цяпер, калі на станцыі ў Вэнэцыі адзін італьянец засьпяваў на ўвесь голас — добра пасьля поўначы, дык мне зрабілася на сэрцы вельмі радасна: я-ж нідзе ня чуў нічога падобнага. Калі хто прывыкне да італьянцаў, дык няма на сьвеце мілейшых людзей!

Аднак ня толькі італьянцы тут не зьмяніліся: аніадна з вялікіх базылік, ні касьцёлаў, якіх тут ёсьць больш чымся днёў у годзе, не зьмянілася; ні адзін з палацаў вельмі прыгожых, нават звонку, а ледзь ня кажны з іх — гэта музэй, ці галерыя, у якіх можна сядзець гадзінамі ці швэндаюцца ды і то ўсяго не агледзіш!

А колёзэум, руіны вялізарных будынкаў і паганскіх сьвятыняў ды форумаў, падземныя лябірынты катакумбаў — усё гэта астаецца аднолькавым, калі мы самі мяняемся так, што і знаёмыя нас не пазнаюць.

Даўней усё гэта захоплівала мяне, як дзівоснае-дзіва. Але цяпер яно мяне і нэрвуе тым, што найбольшыя вуліцы і пляцы старога Рыму дзіўна змалелі . . . Аж ня хочацца верыць, што Корсо ды пьяцца Вэнэція такія цесныя, што ледзь пралезе аўтабус! А тут яшчэ самаходаў такое мноства, што ўвесь Рым замяніўся ў гараж!

Упаўшы ў крытыку, я зьвярнуў асаблівую ўвагу на тое, што ўсе будынкі старога Рыму выраслі як дрэвы ў бары, не заважаючы на другіх, — таму і наступіла страшэннае загушчэньне. Праўда, кажны будынак выкананы з вялікім смакам, але тут не хапае найважнейшага — пляну і парадку. Вось гэта і нэрвуе чалавека, які, пазнаючы кажную добрую работу, перадусім шукае ў ёй розуму. — Аж даходзіла ў мяне да таго, што проста хацелася, каб які новы Нэрон спаліў усю гэтую барахолку, каб пабудаваць на гэтым мейсцы нешта больш сэнсоўнае!

Але, калі я з гэтай думкай пачаў уважней прыглядацца, што трэ было-б спаліць, дык зноў з дзівам заўважыў, што аніадзін — асобна ўзяты — будынак не надаецца на зьнішчэньне!

І тут новая спасьцярога: Рым за кажным разам, як да яго прыглядаюся, здаецца зусім іншым. Іншы быў учора, а іншы сягоньня: іншы ўдзень, іншы ўначы ці раніцай. Мяняецца ў дождж і пагоду, а іншы пры сонцы.

А базыліка сьв. Пятра — будынак так вынятковы, што, каб з ім штось сталася, дык людзі плакалі-б як па сьмерці Яна XXIII-га!

Вось і зрабі тут, што хочаш! Немагчыма наглядзецца на гэтыя сапраўдныя праявы людзкой геніяльнасьці і працы. І чым больш гляджу, тым больш цешуся, што людзі могуць тварыць такія цуды — адзін прыгажэйшы ад другога . . .

І ці-ж можа падняцца рука такога навачаснага барбара, каб (у атамнай вайне) ўсю такую прыгажосьць зьнішчыць? І ці гэты ганебны час яшчэ далёка? Адзін Бог ведае . . .

Мушу расказаць адзін прыклад. Выбраўся я ў нядзелю на вячэрню да бэнэдыктынцаў у базыліку сьв. Паўла. Гадоў 35 таму я ня ведаў нічога больш мілага, чымся гэтае набажэнства. Базыліка была тады яшчэ далёка за горадам і сюды не даходзіла гарадзкая мітусьня. Магутная, вялізная базыліка, а ў вокнах замест шкла мае тонкія пліткі алябастру і таму тут заўсёды цемнавата. Людзей прыходзіць ня многа. Але манахі выходзілі маліцца так, якбы ў іх ня было ніякіх іншых справаў, заняткаў ці патрэбаў. У найбольшым парадку займалі свае мейсцы і пачыналі сьпяваць псальмы.

Аж нельга было паверыць, што гэтыя людзі — так спакойныя — усе італьянцы! А сьпявалі так згодна і роўна, як адзін, як быццам яны былі ўжо ў вечнасьці: здавалася, што затрымаўся час, а гукі прыгожых мэлёдыяў гінулі ў далях, адбіваючыся цудоўным рэхам ад сьценаў базылікі.

Такі сьпеў я чуў яшчэ толькі ў Субіяко ў бэнэдыктынцаў і на Монтэ Кассіно. У Рыме

ёсць яшчэ два іхнія манастыры, але туды прыходзіць нямала народу і гармідар перадаецца манахам. Таму я і бег зноў сюды да сьв. Паўла.

Але што — думаеце — я там знайшоў? — Ні аднаго з даўнейшых манахаў, якія тут маліліся калісь! Цяпер-жа былі ўсе маладыя, новыя людзі, якія нічым ня розьняцца ад звычайных сьвятароў: яны ня толькі не маглі стварыць даўнейшага настрою ў малітве, але і самі яго ня мелі, бо горад ня толькі прыйшоў да іх, але разросься аж да мора, так што і манастыр знайшоўся ў цэнтры вельмі галасістага сэктара. На маю пацеху адбылася вельмі прыгожая навука і працэсія з аковамі сьв. Паўла, якія пры гэтым я мог убачыць.

Ясная справа, што ўжо больш я туды не паеду, бо такі сьпеў я магу знайсьці ў бліжэйшых сьвятынях. Аднак туга па даўнейшым набажэнстве асталася ў душы такая, што магчыма пры першай аказіі паеду ў Субіяко, або на Монтэ Кассіно, каб хоць раз перад сьмерцяй пачуць адгалоскі вечнай Божай славы на зямлі, каб нарэшце затужыць за тым прыгожым небам, якое не прамінае і якога дасканалым абразом яшчэ ня ёсць і гэты Сьвяты Рым. *Ціт Бадзяка*

*

АМЭРЫКА-ІЛЛІНОЙС: Сёньня быў у мяне доктар П. Гайдзель і знайшоў, што я зусім здаровы, але ўсё-ж укалоў мяне, даў лякарства і абяцаў прыехаць за два тыдні.

І дастаў я «Божым Шляхам» № 6: дзякую! Што так напісана аб «канцы сьвету», прачытаў з цікавасьцяй — таму, што пісаў добры пісьменнік, які усё піша прывабна, але згаджацца там няма з чым.

Аб канцы сьвету ніхто мацней не скажа, як Хрыстос, што запісана ў Эвангельлі. А я ніякае вайны не баюся і таксама атамнай, як і кажнае другой! Бо атамныя бомбы вельмі дарагія і мала іх ёсьць, каб шмат шкоды зрабіць: яны толькі зроблены, каб запалохаць праціўніка.

Не падабалася мне, што ў «Божым Шляхам» літуюцца над амэрыканскімі нэграмі. У Амэрыцы збунтаваныя бязбожныя маладыя нэгры. Выдумалі, што белыя людзі вінаватыя тым, што іхных прадзедаў куплялі ў няволю. Аднак цяперашнія нэгры — не патомкі нявольнікаў. Калі Лінкольн даў ім свабоду, многія з іх вымерлі, а іншыя вярнуліся ў Афрыку, у рэспубліку Лібэрыю, якую ім Амэрыка купіла і ўладзіла.

А пасьля іншыя нэгры наяжджалі, як эмігранты з ангельскіх калёніяў і проста з Афрыкі, — аж ужо пазьней дадумаліся, што іхныя продкі былі нявольнікамі...

Зрэшта з тымі, што сапраўды былі купленыя, дык выйшла падобна, як у жыдоў з Язэпам, якога браты прадалі ў Егіпет і ён гэтак ацалеў, а пасьля і братоў ратаваў ад голаду.

Дык вось і нэграў у Афрыцы лавілі і гандлявалі імі. А ў Амэрыку найчасьцей прывозілі арабскія купцы. Калі-б амэрыканцы іх ня куплялі, дык тыя купцы ня везьлі-б іх назад, а выкідалі-б у мора...

У Амэрыцы некаторыя нэгры зрабілі кар'еру і сталі багачамі. А цяпер адзін нэгр назначаны ў Найвышэйшы Суд, дзе ўсіх пяць: вось-жа не трапіў туды ні беларус, ні паляк. — Значыць, свабода ім і чаго-ж яны хочуць? І ў Чыкага маладыя нэгры рэжуцца між сабою і лезуць туды, куды іх ня просяць...

Другі раз напішу разважаньне аб Сьвятым Духу. — Будзьце там усе здаровы!

*а. М. Урбановіч*

*

Ад Рэдакцыі: Дзякуем, што а. Урбановіч даў сваё асьвятленьне падзей. Пэўная справа, што нам, калі мы ўжо дайшлі да поўнае 8-ае дзесяткі, няма чаго баяцца — нават і атамнай вайны! Так ці гэтак — трапім да «Айца Абрагама».. Але Рэдакцыя піша ня толькі для самых старых; а пішам аб пагрозе вайны якраз тое, што так часта паўтарае Папа Павл VI і сусьветня прэса.

Нам нельга, як страўсам у пустыні, хаваць галаву ў пясок; а трэба — не страшыць публіку, але шукаць разумнае рады, як супрацоўнічаць з Царквою ў справе раззбраеньня сьвету, асабліва ад атамнай зброі.

Наконт нэграў а. Урбановіч дае нямала трапных заўвагаў; аднак і самі амэрыканцы прызнаюцца і апісвае гісторыя, што пераважная частка нэграў паходзіць з купленых нявольнікаў. Да апошняга часу іх выкарыстывалі ў паўдзённых штатах у земляробстве. Але цяпер фармэры паўводзілі машыны і нэгры астаюцца безработнымі і масава наяжджаюць на поўнач і асядаюць па гарадах.

Праўда, што маладыя нэгры, не маючы ніякай кваліфікацыі, прычыняюць вялікі неспакой і шкоды ў грамадзтве. Але хто гэтаму вінаваты? Тут было нямала памылак у разумнай Амэрыцы: трэба было або ня ўпускаць гэтулькі чорных эмігрантаў, або, калі іх куплялі ці прыймалі, то трэба было даць ім поўную роўнасьць у грамадзтве. Бо немагчыма было іх «сэгрэгаваць» у працы, у школах і наагул у жыцьці. А цяпер затое гэтая чорная раса, мацнейшая ад белых фізычна і ня прынята ў культурнае жыцьцё, сама захопіць патрэбныя ім пазыцыі; а нават горш, бо будзе «сэгрэгаваць» белых і мсьціцца за сваіх бацькоў і за сябе...

Значыць, хоць час спозьнены, аднак трэба не наракаць і не ваяваць з нэграмі, а самым разумна даходзіць да грамадзкай з імі раўнавагі — на полі рэлігіі, культуры і цывілізацыі, — значыць, вучыць іх роўна з белымі, даваць работу і ў патрэбе энэргічна ўцягваць іх у агульны парадак, а таксама справядліва караць за праступкі.

Дык няхай Дарагі Айцец добра разважае аб Сьвятым Духу, каб належна парадзіць у труднасьцях шаноўнае Амэрыкі! *Рэдакцыя*

# З беларускага жыцьця

### ЛЕКЦЫІ БЕЛАРУСАВЕДЫ

Лекцыі беларусаведы, зарганізаваныя Ангельска-Беларускім Таварыствам у Лёндане, вызначаюцца ў гэтым годзе надзвычай багатым і цікавым зьместам.

У чацьвер 23-га студзеня сп. Рычард Фрэнч, выкладчык геаграфіі на «Юнівэрсіты Коледж» і ў школе Славянскіх і Усходнеэўрапэйскіх студыяў на Лёнданскім унівэрсытэце, гаварыў аб правядзеньні зямельнай рэформы 1558 г. ў заходніх частках Беларусі, асабліва ў Горадзенскім і Пінскім паветах. На аснове багатага матарыялу дакладчык паказаў зьмены ў эканамічным жыцьці краіны і ў стане сялян у выніку рэформы. Даклад быў ілюстраваны дыяпазытывамі.

Айцец Аляксандар Надсон гаварыў у чацьвер 13-га лютага аб Баркулабаўскім летапісе. Ён зьвярнуў асабліва ўвагу на летапіс як на літаратурны твор і як гістарычную крыніцу вестак аб жыцьці і быце беларусаў, асабліва сялян, у ўсходняй Беларусі ў другой палове 16-га стаг.

У чацьвер 6-га сакавіка сп. А. МакМільлін, выкладчык у Школе Славянскіх студыяў на Лёнданскім Унівэрсытэце, меў даклад аб Аляксандру Ельскім. Гэта была магчыма першая спроба ўсебаковага асьвятленьня асобы і творчасьці Аляксандра Ельскага і вызначэньня ягонага месца ў беларускім культурным жыцьці канца 19-га і пачатку 20-га стагодзьдзя.

Прыемна сьцьвердзіць, што лік слухачоў усьцяж павялічваецца, хоць колькасьць беларусаў магла-б быць большай. Лекцыі зьяўляюцца адзінай у сваім родзе нагодай пазнаць бліжэй пэўныя малаведамыя бакі беларускай культуры.

Апошні даклад у гэтай сэрыі адбудзецца ў чацьвер 15-га траўня. Прафэсар Оксфардзкага Унівэрсытэту Рэбэрт Оты будзе гаварыць аб месцы беларускай мовы ў вывучэньні параўнаўчай славянскай філялёгіі. Лекцыя адбудзецца ў памешканьні Брытанскай акадэміі (British Academy, Burlington House, Picadilly, London, W. 1).

Пачатак ў гадз. 6.30 вечарам.

### ДАКУМАНТАЛЬНЫ ФІЛЬМ АБ БЕЛАРУСІ

Беларускай Бібліятэцы ў Лёндане ўдалася дастаць дакументальны фільм зроблены Беларускай дакумантальнай студыяй у Менску. Фільм, які трывае поў гадзіны, быў зроблены з нагоды міжнароднай канфэрэнцыі прысьвечанай пытаньням разьвіцьця адсталых нацыяў, якая адбылася ў Менску ў 1963-цім годзе. Дэлегаты скарысталі з нагоды, каб адведаць Беларусь і іхняе падарожжа па краіне зьяўляецца тэмай фільму.

Фільм быў высьветлены ў сераду 15га студзеня у вялікай залі Школы сьв. Кірыла. Гледачам вельмі спадабаліся здымкі з Белавежскай Пушчы і іншых прыгожых мясьцін Беларусі. Аднак яны былі вельмі нешматлікія. Пераважная частка фільму — гэта паказ калгасаў, фабрык, дзіцячых ясьляў і іншых «достопримечателностей», якія не маюць у сабе нічога спэцыфічна беларускага і могуць быць у якімколечы кутку Савецкага Саюзу. Аўтары фільму вельмі старанна пастараліся абмінуць усё, што-б магло нагадаць аб сваеасаблівасьці беларускага народу, ягонай гісторыі і культуры. Відаць іхняй мэтай было стварыць уражаньне, быццам Беларусь — тыповая савецкая нацыя, якая заўдзачае сваё існаваньне савецкай уладзе.

Фільм каляровы і тэхнічна зроблены добра. Камэнтары ў ангельскай мове. «Аўтахтоны», чыю гутарку часам можна пачуць, гавораць на «общепонятном языке».

---

### ДУМКІ З КНІГІ «СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ»

(Кніжка І-ая, разьдзел 23—24)

Хутка прыйдзе на цябе тут канец, дык інакш зважай ты на сябе.

Калі будзеш мець спакойнае сумленьне, ня будзеш палохацца сьмерці.

Лепш сьцеражыся грэху, чымся ўцякаць ад сьмерці.

Якая нам карысьць з даўгавечнага жыцьця, калі мы так мала папраўляемся?

Каб-жа мы хоць адзін дзянёк добра пражылі на гэтым сьвеце!

О, які шчасьлівы і разумны, хто ўсё жыцьцё імкнецца быць такім, якім хацеў-бы бачыць сябе ў хвіліну сьмерці!

О, неразумны! Ты спадзяешся на даўгавечнае жыцьцё, не маючы ніводнага дня пэўнага.

Хто па сьмерці цябе ўспомніць? І хто будзе маліцца па табе?

Рабі, рабі цяпер, мой даражэнькі, што толькі для збаўленьня твайго служыць, бо ня ведаеш, калі памрэш і ня ведаеш, што па сьмерці цябе чакае!

*

Вялікі і збаўленны чысьцец праходзіць чалавек цярплівы, каторы зносіць крыўды . . . ; ка-

## ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ

*МЕСЯЦ і МАРС.* Месяц — спадарожнік, таварыш зямлі: на вока ён роўны сонцу, але ў сутнасьці далёка меншы ад зямлі.

А Марс — адзін з бліжэйшых суседзяў.

Таму, што людзі так імкнуцца, каб нарэшце дастацца на месяц, дык шмат хто гамоніць, што надарэмна: няма там ні паветра, ні вады. Тэмпэратура немагчымая для чалавека: падчас месячнай ночы — да 160-С марозу, а ў месячным дні да 120-С гарачыні! А без скафандра чалавек зара загіне.

Аднак мусім прызнаць, што дамагаецца чалавецтва пазнаньня нашага спадарожніка нятолькі дзеля прэстыжу-перагонак Захаду з Усходам, але наагул патрэба самой навукі — лепшае пазнаньне сусьвету, нашай сонечнай сыстэмы і магчымасьці пашырэньня гарызонту людзкое веды. Адносна практычнае карысьці з адкрыцьця месяца тымчасам нямнога магчыма штосьці ўгадваць, як і — ня дай, Божа! — магчымасьці карыстаньня з месяца на шкоду чалавецтва...

Марс стаіць у чарзе зара пасьля месяца: плянэта самая падобная да зямлі — і тым, што мае паветра, хоць скупое і праўдападобна мае ваду, а нават расьліннасьць — аж гамоняць аб «марсіянах», якія быццам ужо прыляталі на зямлю ня толькі ў фантазіі пісьменнікаў, але і рэальна ў «талерках»...

На вялікі жаль, трэба пагадзіцца з тым, што — апрача нашае зямлі — няма больш у сонечнай сыстэме плянэтаў адпаведных для людзкога жыцьця. А, калі людзтва — праз сваю сьляпую заўзятасьць — у спаборніцтве Захаду і Ўсходу — загубіць жыцьцё на зямлі, дык наагул яно загіне ў ва ўсей вялізарнай гаспадарцы нашага цудоўнага сонца!

*

А Бог, стварыўшы чалавека, даў яму ўладу і панаваньне над усёю зямлёю, каб засяляў яе і парадкаваў, — уладу над рыбамі і птушкамі і зьвярамі, дый уладу над дрэвамі і расьлінамі; а зярняты і плады і зелень травы мелі быць спажывай чалавеку. Словам, Бог згадаў, каб уся зямля была «падданай» чалавеку. (Кніга Быцьця, разьдзел 1—2).

Аднак Бог ня даў людзям права зьнішчыць зямлю і загубіць чалавечы род і ўсё жывое. Наадварот казаў: «Будзьце плодныя і множцеся і засяляйце зямлю, каб учыніць яе падданай сабе». (Раз. I, 28).

Ці-ж не на згубу людзей і зямлі выдумана атамная зброя?...

---

*Думкі з кнігі «Следам за Хрыстом» (працяг)*

торы шчыра моліцца за ворагаў сваіх і шчыра выбачае правіны іх; каторы не стараніцца прасіць выбачэньня ў іншых; каторы больш склонны да міласэрнасьці, чымся да гневу; каторы часта перамагае сябе і стараецца сваё цела падпарадкаваць духу.

Лепш цяпер ачысьціцца з грахоў сваіх, чымся адкладаць гэта на будучыну.

Дык цяпер старайся і шкадуйся за грахі свае, каб як багаслаўлёны, падчас суду ты быў бясьпечны.

## ПАЗНАВАЙ МУДРАСЬЦЬ ІНШЫХ ЛЮДЗЕЙ!

Ніхто ня знае сябе, пакуль не цярпеў сам. (Мюссэт).

Бог найбольш цешыцца тым, калі бачыць вольнага чалавека, які сагнуў перад Ім калена. (Пэгюі).

Хрыстос не хацеў адмовіць сваім найлепшым прыяцелям таго багацьця, якое паказвае крыж. Ягоная Матка ня была вольная ад крыжа. Апосталам Ён ясна прадказаў, што ім не забракуе крыжа. Аб сьвятым Паўле Хрыстос Сам сказаў: «Я яму пакажу, колькі ён выцярпіць за Імя Маё» (Дзеяньні Апосталаў 9, 16).

Чалавек, якога ніхто ня любіць, ёсьць усё-ж шчасьлівейшы ад таго, які сам нікога ня любіць. (Мад. Жан Рогер).

Чым больш чалавек варты, тым менш бывае пышны. (Рэв. Кляйн).

Мы патрабуем маўчаньня, каб адшукаць сябе; каб ня толькі думаць аб нашых занятках, але каб іх абдумаць, прадбачыць, прыгатаваць...

Мы наагул зашмат гаворым. (Гастон Куртоіс).

Душы важацца ў цішыні, так як золата і серабро важыцца ў чыстай вадзе.

Маўчаньне душы ёсьць падобнае да возера, у якім дрэмлюць воды: калі нішто ня муціць іхняга супакою, тады магчыма ў іх убачыць адбіцьцё неба і зорак.

# ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

### ЯК ПАДПАЛІЛІ?

— Тата, ці праўда — хлопцы казалі, што ў Чэскай Празе студэнт Палюх абліўся бэнзынай, а яго з Масквы падпалілі?

— Праўда, сынок!

— А як падпалілі, ці электрычнай іскрай?

— Не! — камуністычнай...

✳

### ЛЁЗУНГІ НА 50 ГОД БЕЛАРУСКАЙ САВ. РЭСПУБЛІКІ:

БРЭЖНЕЎ: — Парадзьце мне, якія даць лёзунгі беларусам на наступныя гады?

КАСЫГІН: Зморшчыўся і панура-хмурна маўчаў...

Падгорны: — Калі ня можаш нічога новага выдумаць, дык паўтары што казаў ім Хрушчоў на 40-годзьдзе:

Брэжнеў: — Ну-ну! а што такое?

Падгорны:

1) Хто хоча астацца цэлым, едзь на цаліну!

2) Не аглядайся на хлеб — сей кукурузу!

3) Маскву не накорміш, дык і сам есьці ня будзеш.

4) Масква 10 раз большая чым Менск, дык мае 20 раз большы апэтыт.

5) У нас — поўная свабода, дык і глуханемы мусіць нам даваць свой голас.

6) Як вы худзееце, нам напляваць! — А як вашыя сьвіньні худзеюць, Масква спаць ня можа.

7) Найперш здай дзяржаве і гэтым цешся ўвесь год!

Брэжнеў: — Вось і дзякую! Можа некаторыя пункты і ўстарэлі, але лепшых трудна выдумаць.

Касыгін: — А што-ж адплаціце Хрушчову за ягоныя лёзунгі?

Падгорны: — Я раджу за гэтыя сем пунктаў далажыць яму па 7 рублёў у месяц на інвалідную пэнсію.

Брэжнеў: — Добрая рада, але гэта зашмат: досыць будзе сем рублёў на год...

Гэтак асталіся ўсе здаволеныя і удзячныя: беларусы — за мудрыя лёзунгі, Хрушчоў — за пэнсію, Брэжнеў — за добрую раду і Падгорны з сваей выдумкі; а толькі Касыгін, выходзячы, чамусьці пляваўся...

✳

У калгасе «Леніна Бародка» так старанна працаваў агітатар Лыскоўскі, што асталася толькі адна цётка Антоля, веручая і ўпартая. Дык вось ён ёй і кажа:

— Ну, прызнайся, цётка! Ці ты тут самая разумнейшая, што адна верыш у Бога? Дый ты сама падумай: я-ж скончыў вышэйшыя школы і працую агітатарам дзесяць гадоў, чытаю навуковыя кніжкі. Мяне слухаюць тысячы народу і пакідаюць веру, а ты...

Цётка Антоля перабівае: — Добра! Прызнаюся табе, калі так хочаш, шчыра. Толькі перш скажы мне, ці табе плацілі праз усе дзесяць гадоў за працу?

— Пэўна, што плацілі! Як-жа я жыў-бы?...

— Ну-ну-ну! Мне гэтага і трэба. Але ці ня будзеш гневацца; або ці ня перакажаш там... каму?...

— Што ты, цётка?! Магу прысягнуць на галаву Маркса...

— Ну, добра, сынок! на галаву ці на бараду — мне ўсёроўна. Дык слухай: У мяне ёсьць сабака, ведаеш, Лыска? ён якраз дзесяць гадоў начамі ня спіць, а шчыра пільнуе мяне і маё дабро; але затое кармлю яго тым, што ем сама.

— Дык што-ж ты, цётка, раўнаеш? Значыць, па твойму, і я брашу за кусак хлеба ці за костку?...

— Выбачай, сынок! я не раўную. Але прызнайся, ці ты гаманіў-бы далей, каб зрэзалі табе пэнсію?

Тут агітатар толькі бразнуў дзьвярамі...

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

*Хто чытае, а не плаціць,*
*Сябе гэтым не збагаціць —*
*Толькі дарма гонар траціць. —*

*Як чытаць ня будзеш рад,*
*«Божым Шляхам» дай назад!*

*

### *ЛІСА І ГАСПАДАР*

*Ліса да дзеда гаманіла:*
*— Скажы, суседзе мілы,*
*Чаму з канём ты так здружыўся,*
*Як з братам зжыўся?*

*— Ты аб яго так дбаеш:*
*Днём-ноччу даглядаеш. —*
*А конь, хоць зьвер дужэйшы,*
*Ад нас з табой дурнейшы ... —*

*А дзядзька кажа ёй: — Кума!*
*Шукаеш розуму дарма,*
*Бо конскі розум — дрэнь!*
*Хай быў-бы конь як пень,*
*Абы ён воз мой рухаў*
*І пугі слухаў!*

УВАГА! Старая байка паводля Ів. А. Крылова: цяпер рэжым астаўся такі самы, толькі пуга смаглейшая!

*

*Ці-ж людзі так як коні,*
*Каб жыць ім у прыгоне,*
*Хоць закелзаныя праграмай,*
*Хоць падкаваныя рэклямай? ...*

*В. А.*

---

## ЗЬМЕСТ:




Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.